www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 35 (4287)

2 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## У Мінску і Гомелі – тэмпературныя рэкорды!

У сталіцы 30 красавіка слупок тэрмометра падняўся да адзнакі +25,3°С, у Гомелі – да +26,1°С. Такой гарачыні ў канцы красавіка не было некалькі апошніх дзесяцігоддзяў.

**МІНСК, 1 МАЯ 2018 ГОДА**









## Незалежныя прафсаюзы правялі мітынг у сталічным Кіеўскім скверы

Прыйшлі 150–200 чалавек *(гл. фота злева)*.

Мерапрыемства было дазволена гарадскімі ўладамі, але аказалася нешматлюдным. Праўда, транспарантаў хапала, плакаты трымалі і маладыя, і старыя. “Свабоду народу!”, “Пратэстуем супраць парушэння правоў прафсаюзаў!”, “За Беларусь – без кантрактаў!”, “Беспрацоўным – працу!”, “Рабочым – заробкі, багатым – падаткі!”...

*“1 мая – гэта Дзень салідарнасці працоўных,* – выступіў перад прысутнымі старшыня прафсаюза РЭП **Генадзь Фядыніч**. – *А хіба мала сёння праблем у людзей? Мы не ведаем, колькі рэальна плацім за паслугі ЖКГ, у краіне маленькая дапамога па беспрацоўі, народ ціснуць рознымі дэкрэтамі... Калі не выконваюцца эканамічныя патрабаванні, то рана ці позна, але яны трансфармуюцца ў палітычныя. Народ павінен жыць, а не выжываць”.*

Дарэчы, крымінальная “справа прафсаюзаў”, фігурантамі якой з’яўляюцца **Генадзь Фядыніч** і бухгалтар прафсаюза РЭП **Ігар Комлік**, была падоўжана менавіта да 1 мая, але, хутчэй за ўсё, яе аўтаматычна працягнулі.

Збоку за дэманстрантамі пільна назіралі сілавікі ў цывільным, але тых, хто сабраўся, можна было лёгка пералічыць.

*“Гэта ж, здаецца, упершыню за дзесяць гадоў нам дазволілі афіцыйна сабрацца на Першамай*, – адзначыў кіраўнік Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” **Сяргей Калякін**. – *Таму і людзей прыйшло так мала: за доўгія гады народ ужо прызвычаіўся, што акцыі не дазволены”.*

Мітынг прайшоў спакойна, хаця не абышлося без інцыдэнту. Анархісты ў масках вырашылі выказаць свой пратэст, але арганізатары акцыі нават не далі ім слова. Пасля таго як мітынг закончыўся, прысутныя разышліся, а анархістаў затрымалі сілавікі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

*Фота аўтара.*

**У СУСЕДЗЯЎ**

## 3 мая Польшча адзначае Дзень Канстытуцыі




У гэты дзень у 1791 годзе чатырохгадовы Сейм Польшчы прыняў першую ў гісторыі Еўропы Канстытуцыю. Аўтарамі дакумента былі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, польскі магнат граф Ігнацы Патоцкі і грамадскі дзеяч Гуга Калантай.

Дакумент абмежаваў шляхецкую дэмакратыю, параўнаваў мяшчан і шляхту ў палітычным сэнсе, а таксама абмежаваў паншчыну, распаўсюдзіўшы на сялян дзяржаўную абарону. Але Канстытуцыя дзейнічала толькі год, да моманту расійскай інтэрвенцыі.

Пазней, пасля набыцця Польшчай незалежнасці ў 1918 годзе, свята было адноўлена. Але неўзабаве, пасля Другой сусветнай вайны ў 1946 годзе камуністычная ўлада зноў забараніла яго публічнае святкаванне. У папярэдні дзень, 2 мая, палякаў прымушалі здымаць і хаваць нацыянальныя сцягі Польшчы так, каб 3 мая іх не было нідзе відаць. У 1951 годзе Свята Канстытуцыі было афіцыйна адменена.

Сваё адраджэнне яно атрымала ў 1990 годзе, калі 3 мая зноў стала афіцыйным нацыянальным святам у Канстытуцыі Польшчы і выхадным днём.

Варта заўважыць, што Свята Канстытуцыі з’яўляецца для палякаў радасным, у гэты дзень арганізоўваюцца розныя канцэрты, мерапрыемствы і проста сямейныя «маёўкі». Акрамя таго, 3 мая ў польскай сталіцы адбываецца масавы забег на 5 км, які называецца Бегам Канстытуцыі.

**ПАМЯЦЬ**

## Пуцяводная зорка Паўла Шарамета




**«Сіла не ў сіле, сіла ў праўдзе»** – гэтыя біблейскія словы былі пуцяводнай зоркай **Паўла Шарамета.** Менавіта яны з’явіліся на помніку, цырымонія адкрыцця якога прайшла ў нядзелю, 29 красавіка, на Паўночных могілках пад Мінскам.

Помнік зроблены ў выглядзе бронзавага аркуша паперы, заціснутага ў камяні. Аўтары мемарыяла: скульптар Канстанцін Селіханаў і архітэктар Аляксей Галякоў.

– Ідэя, якая ляжыць у аснове помніка, добра характарызуе ўнутраную сутнасць Паўла. Гэта барацьба з сістэмай. Сістэмай, з якой Павел змагаўся за праўду, за дэмакратычнае грамадства, за свабодную, праўдзівую прэсу, – сказала падчас цырымоніі маці Паўла **Людміла Шарамет**.

Гранітная глыба мае глыбокую расколіну, з якой прабіваецца бронзавы ліст журналісцкай паперы... Праз такую цяжкую, як гэта глыба, сістэму прабівалася слова **ПРАЎДЫ** Паўла Шарамета. Яно было мацнейшым за граніт, яно рвала сістэму на часткі...

На адкрыцці мемарыяла было многа калег, сяброў і родных Паўла Шарамета. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, міжнародных праваабарончых арганізацый.

**Фота Вольгі ХВОІН.**

**ЧУЛІ?**

## Паплечнікаў Статкевіча схапілі...

*Падчас першамайскай акцыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў Мінску былі затрыманы актывісты незарэгістраванага Беларускага нацыянальнага кангрэса, які ўзначальвае Мікалай Статкевіч.*

Недалёка ад парку Перамогі схапілі Сяргея Спарыша, Валянціна Троцкага і Рыгора Пагарцава.

**“Дайце народу работу і свабоду!”** – было напісана на плакаце, які трымаў Валянцін Троцкі. А вось Сяргей Спарыш прыйшоў у парк Перамогі з плакатам абразлівага зместу.

Пабачыўшы гэта, адзін з актывістаў Камуністычнай партыі Беларусі паспрабаваў выхапіць плакат з рук Спарыша. Беспаспяхова.

Але тое, што не ўдалося пільным грамадзянам, удалося супрацоўнікам МУС у цывільным. Не, ніхто плакаты з рук не рваў – мужчын проста папрасілі прайсці ў “спецтранспарт”.

Міліцэйскі бусік даставіў актывістаў у Цэнтральны РУУС. Адтуль усіх траіх адвезлі ў спецпрыёмнік на Акрэсціна.

Паводле інфармацыі Мікалая Статкевіча, судзіць іх будуць сёння, 2 мая, у судзе Цэнтральнага раёна Мінска.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

## У працоўных няма праблем...

*Менавіта такую выснову можна было зрабіць, пабываўшы на маёўцы, якую зладзіла Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі ў Мінску.*




Мерапрыемства ў парку Перамогі прайшло пад дым мангалаў, смак таннага шашлыку і камсамольскія песні.

Па транспарантах і расцяжках, якія трымалі ў руках дэманстранты, можна было зразумець: на Першамай пад сцягамі Федэрацыі прафсаюзаў выйшлі працоўныя з розных прадпрыемстваў і ведамстваў. У першых шэрагах, як звычайна, чыноўнікі – з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі на чале з міністрам **Ірынай Касцевіч**, якая прыйшла на свята ў строгім цёмным касцюме і белай блузцы. Сваіх прадстаўнікоў на Свята працы прыслала і яшчэ адно беларускае ведамства – Міністэрства аховы здароўя.

Традыцыйна не абышлася афіцыйная імпрэза і без наменклатуршчыкаў з Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі і актывістаў праўладнай Камуністычнай партыі Беларусі.

А што ж працоўныя калектывы? Зразумела, прыслалі сваіх прадстаўнікоў і яны. З воклічамі “Да здравствует Первое мая!” да прапускнога пункта ў парк Перамогі, дзе, дагледаючы прыйшоўшых, дзяжурылі ветлівыя людзі з міністэрства Ігара Шуневіча, падыходзілі трактаразаводцы. Размахваючы паветранымі шарыкамі, ішлі ў парк жанчынкі са “Слодыча”, рабочыя з Мінскага завода колавых цягачоў, супрацоўнікі холдынга “БелОМА” і супрацоўнікі іншых сталічных прадпрыемстваў.

Не абмінаючы міліцэйскі нагляд, святкуючыя праходзілі ў парк Перамогі. І першае, на што натыкаліся, – гандлёвыя палаткі з разнастайнымі прысмакамі. Кошты ў іх уражвалі сваёй даступнасцю. Так, за сто грамаў свінога шашлыку гандляры прасілі ўсяго 3 рублі 90 капеек, а самае дарагое піражнае да кавы ці гарбаты каштавала ўсяго 1 рубель.

Чакаючы афіцыйнага адкрыцця мерапрыемства, прадстаўнікі рабочага класа хутка занялі месцы за столікамі ў імправізаваных кавярнях і – хто за куфалем піва, хто за кубкам гарбаты – распачалі святкаванне.

Афіцыйнае ж адкрыццё мерапрыемства прадказальна распачалося з выступлення старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі **Міхаіла Арды**. Гаварыў ён без паперкі. З яго слоў можна было зразумець, што яўных праблем у працоўнага чалавека ў Беларусі няма, бо на варце інтарэсаў рабочага якраз і стаяць прафсаюзы. У сваёй віншавальнай прамове функцыянер адзначыў, што толькі за апошні год ФПБ адстаяла правы 86 рабочых, якіх незаконна звольнілі. Акрамя таго, чыноўнік падкрэсліў, што Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі маніторыць выпадкі, звязаныя з узнікненнем няшчасных выпадкаў на вытворчасці.

Міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч** абмежавалася агульнымі віншавальнымі словамі. Кіраўнік адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска **Ігар Бузоўскі** запэўніў: у беларускай сталіцы ўсё робіцца для чалавека, – і аргументаваў гэта радасным фактам: хутка ў эксплуатацыю будзе здадзены стадыён “Дынама”.

Арганізатары мерапрыемства далі слова і чалавеку працы. Спадар **Анатоль Булойчык,** які сёння з’яўляецца начальнікам цэха, адпрацаваў на сталічным Заводзе колавых цягачоў ні многа ні мала 44 гады. На гэтым прадпрыемстве працуюць і яго блізкія сваякі. Агульны стаж гэтай працоўнай дынастыі – 209 гадоў! Але і ён у сваім віншаванні не закрануў ніводнага вострага пытання. Здавалася, што ў людзей працы ў Беларусі няма ніякіх праблем. Гэтае слова ўвогуле не вымавіў ніводны з прамоўцаў.

Хтосьці можа сказаць: не варта ў святочны дзень гаварыць пра праблемы. А калі тады? Вось ёсць Дзень працоўных, ёсць працоўныя, перад імі – адказныя чыноўнікі, чаму б не папрасіць слова і не распавесці пра кантрактную сістэму, якая дамоклавым мячом вісіць над працоўным чалавекам, аб нізкіх заробках, пра якія гаворыцца на кухнях, аб неналежных умовах працы на некаторых прадпрыемствах? Але смельчакоў не знайшлося.

Тым не менш некалькі востра сацыяльных лозунгаў у руках святкуючых убачыць давялося. Напрыклад, “Сацыяльны статус педагога – на годны ўзровень!”. Слушны лозунг, хто б спрачаўся! Годнага сацыяльнага ўзроўню патрабавалі на святкаванні Першамая тыя, хто праз аднаго сядзіць у выбарчых камісіях, забяспечваючы “элегантныя перамогі” патрэбным кандыдатам.

Ці вось яшчэ адзін: “Дзецям – асаблівы клопат дзяржавы!”. Таксама правільныя словы. Вельмі актуальныя. І не страцяць яны сваёй актуальнасці да той пары, пакуль у Беларусі грошы на жыццёва неабходныя аперацыі для нашых дзяцей за мяжой будуць збірацца сіламі простых людзей, тых жа рабочых. А гэта значыць, што сацыяльна арыентаваная дзяржава не здольна цалкам дапамагчы простаму рабочаму і яго сям’і, калі, не дай Бог, да іх прыйдзе бяда...

А Першага мая аўтары гэтых плакатаў так і засталіся масоўкай, не асмеліўшыся папрасіць слова.

Пасля афіцыйнай часткі пачалася ўрачыстая. “Шагай вперед, комсомольское племя, шути и пой, чтоб улыбки цвели!” – панесліся з гукаўзмацняльнай апаратуры радкі старой савецкай песні.

На двары стаяла 1 мая 2018 года...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Как вы лодку назовете…

Похоже, моему поколению придется заново учить географию. Литва приняла решение называть Грузию Сакартвело. Вместо «русифицированного», по мнению литовских политиков, названия придет исконное.

Я не знаю, если честно, хорошо это или плохо. Читая тексты для специалистов на знакомых языках, я периодически натыкаюсь то на один термин, то на другой, за значением которых мне приходится лезть в словари. Хорошо, если в польском тексте ты этот термин уже встречал и догадываешься, откуда он перекочевал, скажем, в украинский или в белорусский. Но мой профессиональный лексикон сформировался на скамье Гродненского государственного университета, он мне комфортен. Зачем привыкать к новым терминам?

То же самое – с транскрибированием имен. Да, нет в немецкой литературе поэта Генриха Гейне – есть Хайнрих Хайне. Будем переписывать наши учебники по истории европейских литератур? Конечно, можно – если есть такое желание. У нас не то что учебник – саму историю можно переписать.

В конце концов, это – их дело. Одно и то же государство мы называем Англией, Великобританией, Объединенным Королевством – и всем понятно, что речь идет о «туманном Альбионе». А вот как нам самим себя называть?

В интернете время от времени вбрасывается идея: пересмотреть название нашего государства. Кто-то все еще поет песню из известного советского мультфильма о капитане Врунгеле: «Как вы лодку назовете, так она и поплывет…» Дескать, «Беларусь» – излишне русифицировано. Вот лучше будет, если вернемся мы к «Литве» или к «Крывии». А что? Литовцам оставим «Лиетуву» – кто сказал, что они будут претендовать и на второй вариант названия – он ведь тоже вполне русифицированный? И, несмотря на всю абсурдность этой дискуссии, она продолжается. Кому-то неймется заменить современное название нашего государства архаичным, чтобы уж окончательно запутать всех. И главное – практического результата ведь у этой дискуссии не будет. Можно сколько угодно дискутировать, как, например, дискутировали по поводу того, какой вариант белорусского правописания – «тарашкевица», «латиница», «наркомовка» или современный вариант – правильный. Но пишем мы все равно так, как пишут в школе, – сегодня и сейчас. И каждое новое поколение в массе своей как раз этот вариант и усваивает. Слова же о том, что вот сегодня так, а завтра мы придем к власти и всех немедленно переучим – бред спятивших филологов. Дай Бог, чтоб дети, выходя из средней школы, на современном белорусском писали правильно.

История у нас многовековая, это правда, а вот государство все равно молодое. Оттого так болезненно реагируем на каждое неверное употребление названия и так искренне всем народом радуемся, когда девочка, запомнившая с детства, гражданкой какого государства она является, поправляет звезду чужого телеканала:

– Не «Белоруссия», а «Беларусь».

Все радуемся. От Змитера Дашкевича до Александра Лукашенко. И я тоже радуюсь. Потому что выросло новое поколение, уже знающее, кто мы, каковы наши корни, как нас правильно называть. И та девочка вовсе не собиралась обижать телеведущего, она просто хочет, чтобы все запомнили, откуда она. Как другая девочка, чуть старше, не захотела стоять на пьедестале почета под чужой гимн – и сошла со ступеньки в знак протеста. Это наилучший признак процесса сознательной самоидентификации, который медленно, но верно идет в нашем массовом сознании. И когда русскоязычные граждане Беларуси выступали на равных на праздновании столетнего юбилея Белорусской Народной Республики, это тоже не могло не радовать. Это означает, что все мы строим один общий дом – Республику Беларусь. С общей историей. Надеюсь, с общей культурой. Общей системой ценностей.

И – с общими демократическими правилами жизни в этом доме. В противном случае нам всем придется заново договариваться, как мы этот дом называем. А народ, судя по всему, от дискуссий о прошлом уже устал. Ему хочется смотреть в будущее и жить в будущем.

ЭКОНОМИКА

# Внешний долг снижается, внутренний растет

**Государственный долг Беларуси на 1 апреля 2018 года составил 41,3 млрд рублей и уменьшился по сравнению с началом 2018 года на 838 млн рублей, или на 2%. Об этом сообщает пресс-служба Минфина.**

Внешний государственный долг на 1 апреля составил 16,4 млрд долларов, уменьшившись с начала года на 278,8 млн (с учетом курсовых разниц), или на 1,8%.

В январе–марте Беларусь привлекла внешние государственные займы на сумму 871,5 млн долларов: 600 млн долларов – еврооблигации; 222,3 млн долларов – правительства и банков России; 33,5 млн долларов – МБРР; 14,2 млн долларов – банков Китая; 0,3 млн долларов – ЕБРР.

На погашение внешнего госдолга с начала 2018 года пошло 1,189 млрд долларов, в том числе 800,0 млн долларов – еврооблигации; 179,3 млн долларов – банки Китая; 107,1 млн долларов – правительство России; 88,3 млн долларов – ЕФСР; 13,3 млн долларов – МБРР; 0,7 млн – США; 0,4 млн – ЕБРР.

Внутренний государственный долг на 1 апреля составил 9,3 млрд рублей, увеличившись с начала года на 134,2 млн рублей (с учетом курсовых разниц), или на 1,5%.

За январь–март размещено внутренних валютных гособлигаций для юридических и физических лиц на 134 млн долларов. Погашено – на сумму, эквивалентную 68,9 млн долларов.

Напомним, на обслуживание госдолга в 2018 году в бюджете предусмотрены средства в сумме 2,5 млрд рублей, что на 25,2% выше оценки 2017 года, пишет TUT.BY.

На погашение госдолга будут направлены поступления от вывозных пошлин на нефтепродукты в сумме 486,5 млн долларов; часть валютных остатков средств бюджета от размещения в 2017 году облигаций (1 млрд долларов); средства от заимствований на внутреннем и внешних рынках в сумме 1,2 млрд долларов, в том числе за счет привлечения шестого и седьмого траншей кредита ЕФСР – 400 млн долларов; выпуска внутренних гособлигаций – 400 млн долларов; выпуска евробондов – 600 млн долларов (уже размещены).

При этом, несмотря на рост госдолга и платежей по нему, возможности для заимствований для Беларуси улучшаются.

ЗАКУЛІССЕ

# Каб не было інтрыг?

*У Беларусі збіраюцца павысіць патрабаванні да кандыдатаў у члены-карэспандэнты і акадэмікі Акадэміі навук.*

*Чым гэта выклікана? Ці не сталі падставай для такога рашэння размовы аб тым, што, маўляў, выбары акадэмікаў і членкараўператварыліся ў барацьбу кланаў і суцэльнае інтрыганцтва?*

Многія вучоныя і не толькі звярнулі ўвагу на той факт, што апошнім часам на Агульным сходзе Акадэміі падчас выбараў за бортам застаюцца прыстойныя, добрыя вучоныя, якія, здавалася б, як ніхто, заслугоўваюць ганаровых званняў акадэміка альбо члена-карэспандэнта. Так, напрыклад, вядомы вучоны ў галіне мікрабіялогіі і біятэхналогіі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, дырэктар Інстытута мікрабіялогіі НАНБ **Эмілія Каламіец** двойчы прэтэндавала на атрыманне ганаровага звання акадэміка. Але ні летась, ні ў 2014 годзе не набрала патрэбныя 2/3 галасоў падчас галасавання на Агульным сходзе Акадэміі. І гэты факт таксама выклікаў шмат спрэчак. Гучалі меркаванні саміх вучоных, што ўсё гэта следства закулісных інтрыг. І не адна Эмілія Каламіец апынулася ў такой сітуацыі. Напрыклад, чамусьці большасць удзельнікаў сходу не прагаласавала за дырэктара Інстытута біяарганічнай хіміі НАН Беларусі **Сяргея Усанава**, і ён таксама не стаў акадэмікам. У 2014 годзе Агульны сход не пусціў у акадэмікі вядомага не толькі ў Беларусі доктара, дырэктара РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі **Вольгу Алейнікаву.**

У інтэрв'ю нашай газеце адзін з навукоўцаў расказаў, што праз інтрыгі фізікі-матэматыкі стравілі два месцы акадэмікаў, таму што ў аддзяленні фізікі, матэматыкі і інфарматыкі сапернічаюць два кланы, дзве школы выбітных фізікаў – клан Барысевіча і клан Сціпанава. Праз гэтую непрымірымасць з аддзялення на Агульны сход не было вылучана ніводнага прэтэндэнта на званне акадэміка.

Увогуле леташнія выбары ў Акадэмію навук самі вучоныя назвалі непрыемна сенсацыйнымі. Вакантнымі былі 11 месцаў акадэмікаў, а абралі толькі 5 чалавек. Менш за палову! Сёння Нацыянальная акадэмія навук Беларусі налічвае 88 акадэмікаў, а месцаў, адпаведна статуту, прадугледжана 100.

– *На мінулых выбарах засталося вельмі шмат вакансій,* – патлумачыў журналістам сутнасць змен у парадак правядзення выбараў новых членаў Акадэміі старшыня прэзідыума НАН **Уладзімір Гусакоў.** – *Многія знакавыя, вядомыя людзі не прайшлі на выбарах, былі заблакіраваны. У сувязі з гэтым нам далі даручэнне выпрацаваць канкрэтныя і зразумелыя крытэрыі, паводле якіх павінны праводзіцца выбары. Калі чалавек прэтэндуе на абранне акадэмікам, то ён павінен падрыхтаваць пэўную колькасць кандыдатаў навук, мець навуковую школу, быць прафесарам, мець публікацыі ў вядомых рэйтынгавых і цытаваных выданнях. Калі нехта не адпавядае гэтым патрабаванням, што датычыцца кандыдатаў у членкоры і акадэмікі, маем таксама павінны быць крытэрыі.*

Плануецца, што навуковец, які прэтэндуе на абранне членам-карэспандэнтам, павінен падрыхтаваць не менш як двух кандыдатаў навук, а на абранне акадэмікам – не менш як чатырох кандыдатаў навук. Акрамя таго, кандыдат у акадэмікі абавязкова павінен быць прафесарам, у члены-карэспандэнты – пажадана прафесарам.

– *На мой погляд, тое, што адбываецца на выбарах акадэмікаў і членкараў, – гэта вынік адсутнасці нармальнай зваротнай сувязі паміж Прэзідыумам і навуковай супольнасцю Акадэміі, адсутнасць паразумення,* – лічыць акадэмік, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі НАНБ **Аляксандр Вайтовіч.** – *На выбарах, якія праводзіліся да новага тысячагоддзя, былі аднолькавыя выпадкі, калі навукоўцы, што прайшлі выбары ў аддзяленнях, не зацвярджаліся на Агульным сходзе. І ў кожным выпадку была канкрэтная прычына. Звычайна колькі абвяшчалася вакансій – усе запаўняліся. А тое, што адбылося на апошніх выбарах новых членаў Акадэміі ў 2014-м і ў 2017 гадах, – гэта ненармальная, абуральная сітуацыя. На Агульным сходзе не прапусцілі больш за палову прэтэндэнтаў на званне акадэміка і досыць шмат прэтэндэнтаў на званне члена-карэспандэнта. У выніку амаль кожная чацвёртая (!) навукоўца, які атрымаў большасць галасоў у сваіх аддзяленнях, завалілі на сходзе! Але ж выбары арганізуе Прэзідыум, ад яго працы ў тым ліку залежыць канчатковы вынік. Калі прэзідыум не можа знайсці кампраміс з навуковай грамадскасцю, атрымліваецца канфлікт інтарэсаў і супрацьстаянне.*

На думку Аляксандра Вайтовіча, тое, як прапануецца змяніць падыходы ў выбарах новых членаў Акадэміі, сітуацыю не зменіць. «*Па-першае, вельмі паспешліва ўсё робіцца,* – кажа ён. – *На мой погляд, трэба было арганізаваць дыскусію, хай бы людзі выказалі свае прапановы і потым усё гэта падсумоўвалася. А тое, што ўнесена, сутнасці, на жаль, не мяняе*».

У ТЭМУ




# Эмілія Каламіец – лепшы вучоны года

Магчыма, суцяшэннем ад паразы на выбарах акадэмікаў для Эміліі Каламіец стала рашэнне Акадэміі навук прысудзіць ёй ганаровае званне «Вучоны года Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі – 2017». Гэта новая намінацыя, якую Акадэмія ўвяла толькі з 2017 года. І дырэктар Інстытута мікрабіялогіі НАНБ Эмілія Каламіец стала першай, хто яго атрымаў.

У Акадэміі навук, дарэчы, заявілі, што пачынаючы з 2018 года званне «Вучоны года Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» будзе прысуджацца штогод напярэдадні Дня беларускай навукі, які адзначаецца ў апошнюю нядзелю студзеня. Да звання прадугледжана грашовая прэмія. У Акадэміі кажуць, што яе памер суразмерны памеру прэміі Нацыянальнай акадэміі навук. З гэтага года ён павялічаны да 250 базавых велічынь, то бок зараз памер прэміі – 6125 рублёў.

Марыя ЭЙСМАНТ.

ПРОБЛЕМА

# 333 суицида за полгода. Но ситуация улучшается

*Мужчины совершают самоубийства в 5,2 раза чаще женщин.*

**За первый квартал текущего года в Беларуси совершено 333 самоубийства, это на 162 случая меньше, чем за такой же период прошлого года. Такие данные публикует Белстат.** *Naviny.by* разбирались, много это или мало.




В 2016 году по всей стране было совершено 2042 самоубийства, годом ранее – 1717.

«*Если брать ситуацию за десять лет, то она улучшается, но бывают всплески*», – рассказали в Институте социологии НАН Беларуси.

Основные причины самоубийств – «*это в первую очередь алкоголь, потом проблемы в семье, потом психические и физические перенагрузки*».

Специалисты Минского областного клинического центра «Психиатрия-наркология» проанализировали случаи самоубийств в области за последние три года и вывели типаж, наиболее склонный к суициду, – это одинокий житель сельской местности, который злоупотребляет алкоголем.

При этом мужчины совершают суицид в 5,2 раза чаще женщин.

«*В каждом районном городе сейчас есть специалисты, информация доступна и на сайтах, и в поликлинике. Обратиться есть куда, но другое дело, что люди не хотят обращаться, стесняются и боятся*», – рассказывают в центре «Психиатрия-наркология».

И называют факторы, которые свидетельствуют о том, что нужно обращаться к специалисту: «*Если у человека появляются устойчивые суицидальные мысли, нужно срочно обращаться к специалисту. Или же если человек испытывает выраженную депрессию, пониженное настроение, ничего не хочется делать*».

По мнению специалистов, к психотерапевту можно обращаться и в профилактических целях – «*если есть какие-то психологические проблемы и человек себя просто чувствует некомфортно*».

Специалисты убеждают, что бояться обращаться за психологической помощью не нужно: «*Смирительную рубашку насильно никто не наденет. Госпитализировать человека могут только в крайнем состоянии*».

Согласно исследованиям, проведенным в Минской области, в 40,6% случаев люди до совершения суицидов заранее озвучивали свои намерения, что может свидетельствовать о невнимательном отношении со стороны близких. В 54,7% случаев самоубийство совершали люди в состоянии алкогольного опьянения.

По данным ВОЗ, «глобальный» коэффициент смертности от суицидов – 16 на 100 тысяч человек. В Беларуси в 2016 году этот коэффициент составлял 21,5. По данным ВОЗ за 2017 год, Беларусь входила в 20 стран мира и в пятерку стран Европы по уровню смертности от суицида.

Артем МАРТЫНОВИЧ.

ЛІЧБА ДНЯ

# 7,78 тысячы рублёў

Такая сума прыпадае на аднаго ўкладчыка пры ўмове наяўнасці ў фізічнай асобы аднаго тэрміновага банкаўскага ўкладу (дэпазіту) ва ўсіх відах валют у банках краіны на 1 красавіка 2018 года, паведамілі ў Нацбанку.

Па-ранейшаму ўкладчыкі аддаюць перавагу зберажэнням у замежных валютах, удзельная вага якіх у агульным аб'ёме тэрміновых банкаўскіх укладаў (дэпазітаў) склала 78,4 працэнта. У той жа час уклады ў нацыянальнай валюце ў першым квартале выраслі на 208 млн рублёў, або на 6,2 працэнта, і склалі 3,58 млрд рублёў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# Беларускі цукар на кітайскі рынак

Канцэрн "Белдзяржхарчпрам" плануе пачаць пастаўкі цукру ў Кітай у 2018 годзе.

*"Кітай выпрабляе значна меншы аб'ём цукру ў параўнанні з тым, што спажывае. Аб'ём імпарту гэтай краіны налічвае мільёны тон. Мы ставім перад сабой задачу ў гэтым годзе ўвайсці з беларускім цукрам на кітайскі рынак"*, – цытуе БЕЛТА старшыню канцэрна **Аляксандра Забелу.**

Паводле яго слоў, у Беларусі з ураджаю 2017 года будзе выпрацавана каля 650 тысяч тон буракавага цукру, гэта рэкордны для галіны паказчык.

ТЫМ ЧАСАМ

# Цэны падаюць

Паводле слоў А.Забелы, на сусветным рынку назіраецца празмернасць цукру. Па выніках 2017 года ва Украіне, Беларусі і Расіі сфарміраваліся лішкі белага цукру ў аб'ёме больш за 1,5 млн тон, што прывяло да падзення на 40% цаны на цукар і паставіла ў цяжкае становішча цукровую галіну краін ЕАЭС.

ПРЫРОДА

# Град памерам з яйка

30 красавіка ў заходніх рэгіёнах Беларусі выпаў буйны град.

У Гродзенскай вобласці, як паведамляе ў сацсетках "Група аматараў метэаралогіі", дыяметр асобных градзін дасягаў 4–5 сантыметраў. У прыватнасці, такія буйныя градзіны назіралі ў Ваўкавыску.

Пра незвычайны град пішуць і жыхары Брэсцкага раёна. Праўда, там градзіны былі крыху меншыя – авальныя дасягалі памераў перапёлчынага яйка. Аднак і гэтага было дастаткова, каб пабіць аўтамабілі.

ЖАХ!

# Распілаваў… гранату

У вёсцы Дзераўная Баранавіцкага раёна адбылася трагедыя – загінуў чалавек, піша мясцовая прэса.

У дзяжурную часць Баранавіцкага РАУС паведамілі пра выбух у Дзераўной. Як высветлілася, узарвалася супрацьтанкавая граната ПГ-7. Мяркуецца, што яе спрабаваў распілаваць у хляве ля свайго дома прыкладна нажоўкай 61-гадовы мясцовы жыхар.

Паведамляецца, што мужчына загінуў на месцы выбуху. У хляве ён быў адзін.

Дарэчы, падобны выпадак у раёне адбыўся ў верасні 2014 года. Тады ў вёсцы Лясна загінуў 33-гадовы мужчына, калі спрабаваў шліфавальнай машынкай распілаваць супрацьтанкавы снарад.

ПРОБЛЕМА!

# Бюрократы играют в «футбол»

*В министерствах, госкомитетах, многочисленных других структурах работает огромное количество секретарш, помощников первых должностных лиц, пресс-секретарей. Большая ли польза от них? Все ли они «на своем месте»?*



## «Позвоните пресс-секретарю»

Звоню в приемную министра по чрезвычайным ситуациям. Представляюсь: кто я, что меня интересует. Спрашиваю, с кем я могу поговорить по интересующему вопросу:

– Пожалуйста, дайте номер телефона, назовите фамилию, имя и отчество этого человека.

– Позвоните пресс-секретарю. Вот его номер телефона. У нас такой порядок.

Вот так! Можно подумать, секретарша на мои простые вопросы ответов не знает, поэтому и «отфутболивает» меня в пресс-службу.

Не бюрократия ли это? Президент страны Александр Лукашенко неоднократно требовал и требует от чиновников всячески искоренять бюрократизм, выжигать его каленым железом.

Ничего не поделаешь, звоню по указанному телефону.

– Пресс-секретарь слушает…

Объясняю то же самое, что говорил секретарше. В ответ слышу:

– А это мне решать, с кем и по какому вопросу вы будете говорить.

От таких слов у меня перехватывает дыхание:

– Что? Повторите, что вы мне сказали. Вы хоть понимаете, о чем вы говорите?

В телефонной трубке молчание. Потом пошли гудки. Видимо, службист понял, что не то ляпнул. Не было смысла опять набирать номер телефона и объяснять молодому человеку, какую глупость он сказал. Что ж, юноша упивается своей властью и очень уж хочет покомандовать мною.

Вспомнил, что у меня где-то должна быть визитная карточка знакомого начальника из этого уважаемого министерства. Она-то, минуя всякую бюрократию, и выручила меня.

А вот еще один случай. Звоню в Министерство информации. Прошу секретаря приемной соединить меня с министром (тогда эту должность занимала Лилия Станиславовна Ананич). Вопрос у меня, извините, не о погоде-природе, а деловой, служебный. И слышу:

– Позвоните, пожалуйста, помощнику министра. Вот его номер телефона.

– Помощник мне не нужен. У меня к нему вопросов нет. Если не можете меня соединить с министром, то, пожалуйста, передайте ей мой вопрос. И если она захочет – пусть мне позвонит, когда освободится. Или пусть скажет, когда мне ей позвонить.

– Ничем не могу вам помочь.

В телефонной трубке пошли гудки – разговор окончен.

Еще раз вспоминаю президента. Разве это не бюрократия, которую нужно выжигать каленым железом? И не где-нибудь там – в верхах, а тут, на низовом уровне: в приемных министерств, ведомств и других организаций. Или я ошибаюсь? Секретарша – не министр. Человек без каких-либо высоких полномочий. Простой исполнитель… воли своего шефа. Ей ли быть бюрократом? Не она придумала правила «игры в футбол» в своем ведомстве. Думаю, «отфутболивает» назойливых посетителей очных и заочных (то есть звонящих) не по своей воле, а по указанию… министра.

Давайте порассуждаем: нужны ли в различных организациях пресс-службы? Эта мысль у меня возникла после того, как однажды присутствовал журналист на коллегии Министерства сельского хозяйства и продовольствия. Шел довольно обстоятельный и деловой разговор (не без самокритики, конечно) о подготовке хозяйств страны к весеннему севу. Бывший тогда министром Семен Шапиро вдруг спросил у присутствующих: «Т-а-к… А где здесь пресс-секретарь?» Поднялась молодая женщина. «Почему вы не выступаете в печати, на радио, телевидении? – продолжил министр. – Ждете, пока нас начнут критиковать журналисты?» Члены коллегии переглянулись, пресс-секретарь, не ответив ни слова, опустилась на свое место.

Думаю, Семен Борисович был прав. И в самом деле: почему пресс-секретари (возможно, за редким исключением) не выступают в средствах массовой информации? Ведь они, как правило, по специальности журналисты: им-то, как говорится, и перо в руки! Нет же, пристроились к теплому местечку и забыли о своем предназначении – писать, говорить и показывать, что происходит в нашей жизни. Критиковать и анализировать, бороться с недостатками, подсказывать, как нужно решать возникшие проблемы. Ну и, конечно, рассказывать об интересном опыте, пропагандировать его. А вместо этого что? В министерствах и ведомствах пресс-секретари перекладывают бумажки с места на место, отвечают на звонки, «отфутболивают» кого-то куда-то. И так далее и тому подобное. Короче, выполняют обязанности секретарш? И для этого нужно было учиться в Институте журналистики Белгосуниверситета?

Если бы после учебы на журфаке БГУ мне предложили должность пресс-секретаря, я, откровенно говоря, счел бы это оскорблением. А сейчас некоторые выпускники и выпускницы даже радуются такому предложению: как же – остаюсь в Минске, не надо ехать в какой-то отдаленный от столицы район, в какую-то там редакцию районной газеты. И цепляются в Минске за что угодно. Вот пример.

Раздается в редакции звонок. Снимаю трубку:

– Здравствуйте! Вас беспокоит пресс-секретарь директора ГУМа…

Ничего себе: директор ГУМа (ну очень высокая должность!) имеет пресс-секретаря! Говорю звонящему:

– Что-то вас плохо слышу. Пожалуйста, повторите, кто вы…

– Я пресс-секретарь директора ГУМа, – торжественно звучит молодой голос.

– Извините, что вы заканчивали? Ах, вы журналист. И вам не стыдно работать в магазине?

В телефонной трубке послышались гудки. Вот так!

## «Не пойдешь работать редактором – сам ищи себе работу»

«Народная Воля» 10 марта с.г. опубликовала заметку экономиста Геннадия Боровика «Скарачаем абслугу чыноўнікаў!», в которой он поднимает проблему «немэтазгоднасці раздзімання штатаў» в районах и областях. «*Будь моя воля,* – пишет он, – *пакінуў бы многіх чыноўнікаў не толькі без памочнікаў, але і без сакратарак. У любой установе ёсць канцылярыя, агульны аддзел – няхай яны паперкамі і займаюцца*”. Поддерживая автора заметки, хотел бы добавить: оставил бы без прислуги многих чиновников даже республиканского уровня.

Опять же сошлюсь на высказывания президента, который постоянно обращает внимание на необоснованно раздутые штаты и призывает оптимизировать их. Вроде бы так и получается: вначале где-то кого-то сокращают, а потом, смотришь, опять штаты растут. И всем вроде бы хорошо, все нормально. Возьмите те же должности пресс-секретарей: где они только не появились! А нужно ли было их везде плодить и зарплаты немаленькие назначать? И положение в обществе ого какое (они так считают)! Недавно редактор одной небольшой газеты признался мне: «Надоела работа в редакции. Подскажи мне, где бы это устроиться пресс-секретарем?» «Дурень ты, – в шутку сказал ему, – а зачем поступал на журфак? Ты же там чье-то место занимал, а толку из тебя теперь нет. Перешел дорогу тому, у кого, видимо, при поступлении в университет не хватило баллов, и он остался за бортом. Ты это место занял, а теперь что? Уже надоела работа? Теперь, мол, хочу туда, где местечко потеплее и платят побольше?».

Не согласился со мной мой знакомый. Сейчас же можно воспользоваться платным образованием: учись – не хочу. Родители за учебу сына или дочери рассчитываются своими деньгами, а уж что из этого получится – никто сказать не может. Во всяком случае, как подметил Геннадий Боровик, смогут лишь «*паперкамі займаца*».

Я уже не говорю о том, что в редакциях многих районных газет по-прежнему, как и в советские времена, работают в основном учителя, а многие специально подготовленные для местной прессы журналисты цепляются за Минск и становятся где-то секретарями, пресс-секретарями, помощниками. Кем угодно, но только в Минске.

Позвонил я однажды редактору районной газеты. Поинтересовался проблемами местной прессы. Судя по ответам на мои вопросы, я понял, что он в этом деле ничего не понимает. Но, молодец, ничего скрывать не стал, рассказал честно и откровенно, как оказался в редакции.

– Я не журналист, по образованию учитель-физик. Работал инструктором в райисполкоме. Вроде бы все было нормально, но вот однажды председатель райисполкома мне сказал: место редактора в газете освобождается – иди туда работать. Я возразил: дескать, в газетном деле ничего не понимаю. Тогда он мне сказал: «Другой работы тебе дать не могу. Не пойдешь работать редактором – сам ищи себе работу». Пришлось согласиться. Пришел в редакцию, всем рассказал, почему меня сюда назначили, и попросил журналистов помочь мне делать газету. Молодцы ребята, они меня поняли, и сейчас мы работаем слаженно, дружно. У райисполкома претензий к редакции нет.

– А читатели довольны газетой?

– Видимо, да. Тираж не упал. Наоборот, понемногу растет. Но все-таки я чувствую себя не очень уверенно на этом месте. Готовлюсь получить журналистское образование.

Это хорошо, что человек понимает, что он не на своем месте, и чувствует себя не в своей тарелке. Хорошо и то, что он хочет стать дипломированным журналистом. А сколько таких, кто, имея диплом журналиста, на самом деле таким не является. Не потому ли зачастую и тиражи газет, где они работают, ну о-о-очень маленькие?

Возможно, кому-то не понравятся мои рассуждения, но я всегда придерживался и придерживаюсь такого мнения: каждый человек должен быть, как говорится, на своем месте: бюрократом стать нетрудно, профессионалом – гораздо труднее. Но только профессионалы способствуют решению важных задач, которые выдвигает повседневная жизнь.

**Александр ГРАДЮШКО.**

СІТУАЦЫЯ

# Антон АСТАПОВІЧ: «Без мяне мяне жанілі»

*Старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры распавёў “Народнай Волі”, як яго запісалі ў невядомы фонд.*

*“Скончыў расследаванне наконт фонду, у які мяне запісалі сябрам апякунскай рады і сябрам праўлення*, – кажа **Антон Астаповіч**. – *Аказваецца, чалавечаму нахабству няма межаў”.*

– У 2009 годзе два браты-прадпрымальнікі Дзядко выкупілі ў Нясвіжы будынак былога бернардзінскага кляштара, каб рэканструяваць яго пад гатэль, – распавядае наш суразмоўца. – Гэта помнік архітэктуры канца XVI стагоддзя. Сам касцёл не захаваўся (яго пасля вайны зруйнавалі), а корпус застаўся. У савецкія часы там быў штаб вайсковай часці, якая знаходзілася ў Нясвіжы.

Але ў выніку планы прадпрымальнікаў развaліліся, як картачны домік. Яны да гэтага часу не расплаціліся ні з праекціроўшчыкам Генадзем Дулевічам, ні са мной і маёй камандай, хаця мы выконвалі комплексныя навуковыя вышуканні. Таварышы нават не ўяўлялі ўвесь маштаб будоўлі, якую яны збіраліся распачаць. Бізнес у братоў быў дробны (дзве аўтамыйкі ў сталіцы), а вырашылі “падняць” такі вялікі аб’ект. Будаўнічыя аб’ёмы і плошчы там проста зашкальвалі! З часам той самы кляштар у прадпрымальнікаў забралі, а нашы шляхі з імі разышліся. Але зараз яны зноў скрыжаваліся дзіўным чынам.

**– Маеце на ўвазе гісторыю з фондам?**

– Днямі мне патэлефанавалі з Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінаблвыканкама. Паведамілі, што я знаходжуся ў складзе кіруючага органа нейкага фонду, пра які я, натуральна, ні сном ні духам. І прад’явілі мне прэтэнзіі: маўляў, некалькі год не здаецца гадавая справаздача, лісты дасылаюцца па юрыдычным адрасе фонду, але прыходзяць назад, бо такой установы не існуе. Я паабяцаў разабрацца з гэтай справай. Спачатку думаў, што, магчыма, гэта звязана з Нясвіжскім касцёлам альбо з запаведнікам, але аказалася, што гэта тыя самыя браты-прадпрымальнікі яшчэ ў 2011 годзе заснавалі нейкі фонд і дзеля саліднасці ўключылі мяне ў склад яго праўлення. Як кажуць, без мяне мяне жанілі.

**– Што гэта за фонд?**

– Нават дакладна не ведаю, як ён называецца, але нешта звязана з рэстаўрацыяй кляштара. Магчыма, думалі атрымаць такім чынам на аб’ект нейкія гранты. Але зараз тыя прадпрымальнікі змянілі тэлефоны, і з усяго спісу праўлення фонду супрацоўнікі ўпраўлення юстыцыі змаглі знайсці толькі мяне. Усе астатнія аказаліся недасягальнымі. Я, дарэчы, не вельмі крыўдую на тых прадпрымальнікаў за тое, што са мной не разлічыліся, але навошта мяне ўпісалі ў сваю структуру без маёй згоды?

**– Будынак былога бернардзінскага кляштара так і стаіць без гаспадара?**

– Ён рэгулярна выстаўляецца на аўкцыён, хаця пакуль не знаходзіцца жадаючых яго выкупіць. Стан будынка ўжо не вельмі добры, але дах падрамантавалі, каб вада не трапляла ўнутр. Увогуле гэта праблема. На жаль, у нас няма нармальных інвестараў, якія ўкладалі б грошы ў такія гістарычныя аб’екты. Вось і з’яўляюцца розныя прадпрымальнікі-невукі, якія не разумеюць, што для такой будоўлі патрэбны не 3–4 тысячы долараў, а сотні тысяч. А можа, нават і мільёны.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РАКУРС

# «Рост спажыўкрэдытавання ў мінулым годзе збянтэжыў нас»

*У Беларусі набылі моц новыя правілы крэдытавання насельніцтва.*

Галоўная навіна – увядзенне паказчыка пазыковай нагрузкі, які банкі павінны разлічваць пры выдачы спажывецкіх крэдытаў фізічным асобам.

“*Рост спажыўкрэдытавання ў мінулым годзе збянтэжыў нас, мы асцерагаемся, што банкі могуць грэбаваць рызыкамі ў працэсе крэдытавання насельніцтва*”, – заявіў у сакавіку намеснік старшыні праўлення Нацбанка **Дзмітрый Лапко** на канферэнцыі Fitch Ratings у Мінску. “*Планы па ўвядзенні каэфіцыента пазыковай нагрузкі выношвалі даўно, і цяпер гэтае рашэнне будзем рэалізоўваць*”, – дадаў ён.

У 2017 годзе аб’ём спажывецкага крэдытавання ў Беларусі вырас на 75%. Завінавачанасць насельніцтва па такіх крэдытах на пачатак 2018 года перасягнула 3 млрд рублёў. Пры гэтым праблемная завінавачанасць па гэтых крэдытах невялікая – на канец 2017 года яна складала парадку 1%.

Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця, які крэдытуе Беларусь, рэкамендаваў беларускім уладам зрабіць захады па абмежаванні тэмпаў росту спажывецкага крэдытавання.

ДА ВЕДАМА!

# Дапамога дзецям

У сувязі з павелічэннем з 1 мая памераў бюджэту пражытачнага мінімуму павялічваюцца і памеры дзяржаўных дапамог сем’ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Дапамога (аднаразовая) у сувязі з нараджэннем дзіцяці складзе:
– пры нараджэнні першага дзіцяці – 2065,8 рубля,
– пры нараджэнні другога і наступных дзяцей – 2892,12 рубля.

Дапамога (аднаразовая) жанчынам, якія сталі на ўлік у арганізацыях аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, – 206,58 рубля.

Памеры штомесячнай дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў:
– на першае дзіця – 312,03 руб.;
– на другога і наступных – 356,60 руб.;
– на дзіця-інваліда – 401,18 руб.;
– дадаткова для сямей, якія выхоўваюць дзяцей ад 3 да 18 гадоў, – 103,29 рубля.

Штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці-інваліда да 18 гадоў складзе:
– з I ці II ступенню страты здароўя і з III ці IV ступенню страты здароўя да спаўнення дзіцяці трох гадоў – 206,58 руб.;
– з III ці IV ступенню страты здароўя пасля спаўнення дзіцяці трох гадоў – 247,90 рубля.

Дапамога (штомесячная) на дзяцей да 18 гадоў, інфікаваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, вызначана ў памеры 144,61 рубля.

**Марына НОСАВА.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Колькі будуць атрымліваць пенсіянеры?

*У Беларусі з 1 мая выраслі працоўныя пенсіі па ўзросце.*

У сярэднім пенсіі павялічыліся на 5,4%. У Мінпрацы падлічылі, што сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросце цяпер будзе 340,6 рубля, то бок прыбаўка складзе ўсяго толькі 26 рублёў.

Апошні раз пенсіі ў Беларусі павышаліся ў лістападзе мінулага года і таксама ў сярэднім на 5 працэнтаў. Варта адзначыць, што гэта ўжо стала нормай – аднаразовае павышэнне пенсій на працягу года. Адзін раз у год працоўныя пенсіі па ўзросце пералічвалі ў бок павелічэння і ў 2017-м, і ў 2016-м, і ў 2015 гадах. Апошні раз тройчы ў год пенсіі павялічваліся толькі ў 2014 годзе. У 2018-м, заяўлялі раней чыноўнікі, пенсіі таксама будуць індэксавацца толькі адзін раз.

Але ж як растуць пенсіі беларусаў? Калі перавесці іх у цвёрдую валюту, то высветліцца, што за апошнія тры гады пенсіі не толькі не выраслі, але і ўпалі.

Мяркуйце самі.

Між тым цэны таксама не стаялі на месцы. Прасцей за ўсё гэта адсачыць па цэнніках на лекі. Напрыклад, папулярны ў пенсіянераў «сардэчны» прэпарат “Кардыямагніл” нямецкай вытворчасці (упакоўка 100 таблетак па 75 мг) у 2015 годзе ў сталічных аптэках можна было набыць па максімальнай цане 101.700 рублёў (10 рублёў 17 капеек пасля дэнамінацыі), і тады гэта складала 5,8 долара. А сёння такая ж упакоўка максімальна каштуе 12 рублёў 95 капеек, або 6,47 долара. Адкуль такі рост? Таксама змянілася цана і на французскі прэпарат ад ціску “Наліпрэл А”, (таб. 2,5 мг, №30). У 2015 годзе яго рэалізоўвалі па максімальнай цане 207.250 рублёў (20 рублёў 73 капейкі), або 11 долараў. Цяпер гэтае лякарства каштуе 28.82 рубля, ці 14,41 долара.

| Дата | На колькі павялічылася працоўная пенсія па ўзросце, у працэнтах | Памер пенсіі ў дэнамінаваных рублях | Памер пенсіі ў доларах |
|---|---|---|---|
| 1 лютага 2014 г. | 5,2 | 240,73 | 250 |
| 1 жніўня 2014 г. | 7,3 | 259,68 | 252,1 |
| 1 лістапада 2014 г. | 5,3 | 273,43 | 255 |
| 1 верасня 2015 г. | 5 | 289,73 | 164,6 |
| 1 снежня 2016 г. | у сярэднім на 5 | 305,79 | 155,2 |
| 1 лістапада 2017 г. | у сярэднім на 5 | 314,69 | 155,7 |
| 1 мая 2018 г. | 5,4 | 340,6 | 170 |

Варта адзначыць, што сёння ў Беларусі пражываюць каля 2,6 мільёна пенсіянераў, з іх 2,1 мільёна атрымліваюць працоўныя пенсіі па ўзросце. Але, напэўна, таму, што пражыць за такія капейкі складана, кожны чацвёрты пенсіянер працягвае хадзіць на працу.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СКАНДАЛ

## Родченков против биатлонисток

Бывший руководитель Московской антидопинговой лаборатории Григорий Родченков подал встречный иск к трем российским биатлонисткам и бизнесмену **Михаилу Прохорову**, ранее возглавлявшему Союз биатлонистов России. Всех четверых Родченков обвиняет в клевете и неправомерном судебном преследовании. Об этом сообщил немецкий журналист Хайо Зеппельт, разместив на своей странице в Twitter фотокопии заявлений самого Родченкова и его адвокатов.

Ранее Международный олимпийский комитет (МОК) на основании показаний Родченкова пожизненно дисквалифицировал российских спортсменок **Ольгу Зайцеву, Ольгу Вилухину** и **Яну Романову**. Родченков утверждал, что три биатлонистки причастны к государственной допинговой программе РФ. Зайцева, Вилухина и Романова подали в суд на Родченкова, потребовав в качестве компенсации по 10 миллионов долларов каждой. Прохоров финансово поддержал расследование против Родченкова.

СЛЫШАЛИ?

# Казначей Ватикана предстанет перед судом



Кардинал Джордж Пелл, управлявший до настоящего момента финансами Ватикана, будет привлечен к суду у себя на родине, в Австралии, по обвинению в сексуальных преступлениях. Как постановил после длительных предварительных проверок во вторник, 1 мая, суд в Мельбурне, в отношении 76-летнего Пелла будет возбуждено дело. Его обвиняют в насильственных действиях в отношении мальчиков.

Пелл обвиняется в том, что он в молодости, будучи простым священником в своей родной коммуне Балларат, а также позднее в Мельбурне в сане архиепископа совершал насильственные сексуальные действия в отношении мальчиков. Сам кардинал все отрицает, однако на период разбирательства принял решение уйти в отпуск. Наблюдатели полагают, что вероятность возвращения Пелла на свою должность крайне невысока.

Таким образом, Пелл, который считался третьим по влиянию человеком в Ватикане, стал самым высокопоставленным священнослужителем, против которого выдвигаются подобные обвинения. Джордж Пелл был назначен руководителем секретариата по делам экономики Ватикана в 2014 году Папой Франциском.

НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

## Бундэстаг абмяркоўвае наступствы Чарнобыля

Старшыня парламенцкага камітэта па ахове навакольнага асяроддзя Сільвія Котынг-Уль (Партыя зялёных), якая наведала напярэдадні зону забруджання вакол Чарнобыльскай АЭС, падвергла крытыцы палітыку ўкраінскага ўрада, які працягвае выкарыстоўваць станцыю для камерцыйнага турызму. Таксама на пасяджэнні камітэта выступіла статс-сакратар Міністэрства навакольнага асяроддзя Рыта Шварцалюр-Зюс, якая паведаміла пра затрымкі па ўводзе ў эксплуатацыю ахоўнай аркі вакол 4-га энергаблока ЧАЭС, які планаваўся яшчэ на лістапад 2016 года. Але, сказала статс-сакратар, украінскае кіраўніцтва абяцае скончыць работы да канца бягучага года.

Пасяджэнне профільнага камітэта Бундэстага было прымеркавана да гадавіны аварыі ў Чарнобылі – буйнейшай тэхнагеннай катастрофы свету.

## Германія надзела кіпу

Жыхары буйнейшых гарадоў Германіі – Берліна, Кёльна і іншых – выйшлі на вуліцы, каб узяць удзел у акцыі пратэсту супраць антысемітызму. У знак салідарнасці ўдзельнікі акцыі надзелі традыцыйны яўрэйскі галаўны ўбор – кіпу. Акцыя адбылася пасля таго, як напярэдадні ў Берліне падвергліся нападу два мужчыны, якія надзелі кіпы дзеля праверкі, наколькі бяспечна адчуваюць сябе яўрэі ў Германіі.

На гэты раз таксама не абышлося без інцыдэнтаў: у берлінскім раёне Нойкёльн у аднаго з нешматлікіх дэманстрантаў мужчына выбраў сцяг Ізраіля і пашкодзіў яго. Паліцыя ўзбудзіла з гэтай нагоды крымінальную справу аб пашкоджанні маёмасці.

## Стрэл з пальца падчас абрабавання банка

Паліцыя Франкфурта расшуквае 30-гадовага мужчыну, які спрабаваў абрабаваць банк, выкарыстоўваючы замест пісталета ўласныя пальцы! Ён прыйшоў у аддзяленне банка без маскі і патрабаваў аддаць яму грошы. Супрацоўнікі расхлумачылі, што грошай... няма. Пакрыўджаны "рабаўнік" склаў два пальцы ў выглядзе пісталета і "стрэліў" з іх у столь. Затрымліваць яго напачатку не сталі, бо вырашылі, што гэта жарт.

Але ж праз нейкі час "рабаўнік" вярнуўся і паведаміў, што гэта была сапраўдная спроба рабаўніцтва. Таму банк вырашыў на ўсякі выпадак выклікаць паліцыю. У якасці асаблівых прыкмет было названа тое, што абодва перадплечча "рабаўніка" былі загіпсаваны.

## Вярнуць і дэрадыкалізаваць

Урад ФРГ мае намер вярнуць у Германію і дэрадыкалізаваць дзяцей прыхільнікаў тэрарыстычнай групоўкі "Ісламская дзяржава", якія з'ехалі з краіны. Пасля вяртання ў ФРГ дзеці будуць знаходзіцца пад апекай сваякоў і сацыяльных ведамстваў.

Па меншай меры 270 жанчын, якія маюць нямецкі пашпарт, а таксама іх дзеці знаходзяцца ў раёнах Сірыі і Ірака, дзе вядуцца баявыя дзеянні. Прыкладна палова гэтых дзяцей былі народжаны ва ўмовах вайны.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Мірскі замак

Сапраўднымі залацінкамі беларускай зямлі з'яўляюцца шчодра рассыпаныя і атуленыя шматлікімі легендамі замкі. Сярод іх найпершым дыяментам справядліва лічыцца і дагэтуль велічны і высакародны амаль пяцісотгадовы Мірскі замак. Нездарма ў 2000 годзе ён першым з беларускіх архітэктурных помнікаў унесены ЮНЕСКА ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны як з'ява неацэннага гістарычнага багацця.

Калісьці, расказваюць, Мірскі і Нясвіжскі замкі, гаспадарамі якіх з'яўляліся князі Радзівілы, былі злучаны між сабой глыбокім падземным ходам. У тых таемных лёхах хаваліся ад людскога вока самыя каштоўныя радзівілаўскія багацці. І толькі найбольш пашаноўным гасцям паказвалі свае набыткі гаспадары. А вазілі гасцей па падземеллях дужыя мядзведзі, запрэжаныя ў залатыя карэты. Ды з часам заблудзіліся мядзведзі ў вусцішных хадах-лёхах. Пылам забыцця пакрыліся цудоўныя скарбы. Нябачнымі сталі ўваходы ў падземнае царства. Толькі показкі пра тое і да сённяшняга дня не даюць спакою апантаным скарбашукальнікам.

З асяроддзя сваіх суродзічаў Мірскі замак вылучаецца тым, што гэта ледзь не самы старадаўні і першы буйны помнік прыватнага мураванага будаўніцтва. Калі Навагародскі, Гарадзенскі, Крэўскі замкі з'яўляліся дзяржаўнымі пабудовамі, дык Мірскі ўзведзены выключна на сродкі ягоных гаспадароў.

Ён пабудаваны пасля 1510 года надворным маршалкам Вялікага Княства Літоўскага берасцейскім старастам і ці не першым мецэнатам на беларускай зямлі Юрыем Іллінічам. Ад спячастых, халодных і суровых збудаванняў ранейшага часу замак адрозніваецца большай цяплынёй, мастацкай аздобай і сваёй шматфункцыянальнасцю.



Галоўная адметнасць сярэднявечных замкаў выяўлялася ў тым, каб не сустракаць чаканых гасцей, а не пускаць няпрошаных. Мірскі ж палацава-замкавы комплекс удала паяднаў абедзве гэтыя функцыі. Хоць, вядома, найперш ён быў абарончым збудаваннем. Гэта падкрэслівалі 4 вуглавыя вежы вышынёй 25–27 метраў. Яшчэ вышэйшая, пятая, уваходная вежа размяшчалася ў цэнтры заходняй сцяны. Уваход у замак зачынялі двое дубовых варот. Дадаткова яго пільнавала герса – каваная рашотка з заточанымі ўнізе палосамі. У выпадку небяспекі яна імгненна падала зверху, перакрываючы шлях ворагу. Пазней на італьянскі манер перад варотамі галоўнай вежы была збудавана ахоўная падковападобная сцяна – барбакан.

Замак меў тры баявыя ярусы, адзіныя ў Вялікім Княстве Літоўскім машыкулі (навясныя байніцы), «вараныя вокны», адкуль на галовы ворагаў ляцелі камяні і лілася гарачая смала. Сцены і вежы былі густа працяты гарматнымі і ружэйнымі байніцамі.

Прыкметай адыходу ад суровых гатычных традыцый у абарончых збудаваннях стала наданне замку статусу загараднай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў. У канцы XVI – пачатку XVII стагоддзяў на замкавым двары з'явіўся трохпавярховы жылы палац. Узведзены ў стылі рэнесансу, ён меў больш за 40 выдатна аздобленых пакояў. Паркетныя падлогі, цудоўныя печы з рэльефнай кафлі, каваныя з медзі падсвечнікі, скульптуры, разьба, габелены, карціны, дарагая зброя, каляровае шкло і вітражы ў вокнах, знакамітыя карэліцкія шпалеры – усё гэта мусіла сведчыць пра багацце ўладальнікаў і здзіўляць шматлікіх гасцей. На галоўнай вежы сваімі званамі адбівалі мірскі час гадзіннік.

Шматлікім еўрапейскім навацыям у сваіх уладаннях спрыяў Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Наведаўшы падчас падарожжа ў Іерусалім Італію, князь «захварэў» на італьянскія манеры. Увасобіў іх не толькі ў самім замку. За знешнім валам быў закладзены багаты на рэдкія расліны «італьянскі сад». Адных толькі цеплалюбівых дрэў з розных куткоў свету расло тут больш за 400. Былі збудаваны аранжарэя, каналы, ставы, млыны. Непадалёк з'явіўся звярынец.

У 1553 годзе здзейснілася запаветная мара першага замкавага фундатара – ягоны ўнук, таксама Юрый Іллініч, атрымаў тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі на Міры. Замак на некалькі стагоддзяў набыў статус цэнтра Мірскага графства. Пазней граф пераказаў уладанні сыну свайго апекуна Мікалаю Радзівілу Сіротку, які і закончыў трэці этап будаўніцтва палаца.

Хоць замак стаяў не на ваенных скразняках, ды зведаў ён і гады ліхалеццяў, і аблогі, і горкі прысмак ваенных сутычак. Шведскі кароль Карл XII у 1706 годзе ўзяў яго штурмам, спаліў. Яшчэ і дагэтуль чорная сажа сям-там нагадвае пра той «шведскі» пажар. У час Айчыннай вайны 1812 года былі разрабаваны замкавыя багацці, узбраенне. Ад выбуху парахавога склада трэснула адна з вежаў. Замак пачаў губляць сваё баявое значэнне і прывабнасць.

Калі ў 1853 годзе яго пабачыў Уладзіслаў Сыракомля, ён сумна пісаў: «*...устае ва ўсёй велічы сваіх руінаў Мірскі замак... Руіны з чырвонай цэглы прыгожа глядзяцца на зялёным фоне даўніх валоў і блізкага саду. Гнёзды буслоў на вежах па-асаблівому і вельмі добра аздабляюць тое, што засталося ад замка, – яму, нягледзячы на моцныя яшчэ сцены, ужо нікол, мусіць, не ўваскрэснуць*».

Аднак памыліўся знаны літаратар і даследчык даўніны. У 1891 годзе Мікалай Святаполк-Мірскі купіў замак у князя Л.Вітгенштэйна. Пачалося яго аднаўленне. У 1904 годзе ў парку збудавана капліца-пахавальня, на якой дагэтуль захавалася маляўнічае пано з выявай Спаса.

Для аднаўлення гэтага гнязда беларускай славы шмат намаганняў прыклаў апошні ўладальнік замка Міхаіл Святаполк-Мірскі. Так было ў 1922–1938 гадах. Так яно дзеецца і зараз, калі стараннямі беларускай дзяржавы шмат што ў замку аднаўлена, адбудавана і зноў здзіўляе сваёй першаснай красой і магутнасцю. Верыцца, што неўзабаве ён зноў будзе вабіць наведнікаў сваёй велічнасцю, прыгажосцю і непаўторнай адметнасцю.

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# Игры «патриотов», или Как нейтрализуют украинского президента

*(Окончание. Начало в №33.)*

*Политики и политические партии в Украине на сегодняшний день имеют крайне низкую поддержку в обществе. За четыре года президентства Петр Порошенко с рейтингом 3,9% оказался в когорте аутсайдеров возможных выборов, борющихся за 4–6-е места.*

*В «Народной Воле» за 24 апреля наш собственный корреспондент в Киеве Александр Цынкевич подробно изложил электоральные предпочтения украинцев и рассказал о фатальных ошибках украинского президента, допущенных за последний год. Сегодня – о том, как Порошенко пробует переломить ситуацию и как «союзники» пытаются ему противостоять.*

## Дела церковные

Следующим этапом, по плану Порошенко, шло многообещающее заявление о создании поместной православной церкви в Украине. Чтобы в очередной раз не оконфузиться, главу парламента и лидеров фракций вызвали «на ковер» в Администрацию президента. На этот раз инициативу Петра Порошенко поддержали. Верховная Рада проголосовала за обращение к Вселенскому Патриарху Варфоломею с требованием предоставить автокефалию православной церкви в Украине (Томос) и признать недействительным акт аннексии Киевской Митрополии Московским Патриархатом в 1686 году.

В действительности создание независимой от Москвы украинской православной церкви в условиях нынешней российско-украинской войны – важное решение для укрепления национальной безопасности Украины. Но тема эта достаточно скользкая, труднореализуемая и уж точно не терпящая оголтелого предвыборного пиара. Сперва надо получить необходимое решение, а уж потом щеки надувать.

За новейшую историю Украины практически все украинские президенты на излете своей карьеры затрагивали этот вопрос. Исключение составил только Янукович. Не успел, его «попросили» уйти раньше. Что получится из этого обращения: автокефалия, автономия, какой-то другой статус украинской православной церкви или все останется как прежде, – не совсем ясно. Формально должно быть обращение не столько президента и парламента, сколько канонической православной церкви, действующей на территории Украины. На сегодняшний день этот статус имеет православная церковь Московского патриархата. Она же такого рода обращения не сделает. Подождем, что скажет Вселенский Патриарх Варфоломей.

## Нейтрализация президента?

В Верховной Раде, пойдя на уступку президенту в одном вопросе, в другом, более важном для него, фактически отказали. Отчет в парламенте премьер-министра Владимира Гройсмана перенесли на два месяца. Окружение президента предполагало, что после отчета Кабинета министров вышедшего из-под президентского контроля премьера подвергнут обструкции и «показательной порке» с возможной отставкой. Далее, по замыслу, либо «союзники» должны объединиться на условиях президента, либо наступит парламентский кризис, который приведет к роспуску Верховной Рады с осенними досрочными выборами. В случае несговорчивости партнеров в качестве запасного варианта переставляются местами выборы президента и выборы в парламент. Тогда у Порошенко появляется поле для маневра.

Но, как всегда, подкачала реализация.

«Союзники» организовали формальный повод для переноса. Внезапно отправили в зарубежную командировку главу комитета Верховной Рады по вопросам экономической политики, без которого отчет главы Кабмина не заслушивается. После этого спикер Андрей Парубий, с одной стороны, успокаивая коллег, а с другой – ограничивая возможности маневра президента, делает заявление о том, что президент считает: «*досрочные выборы – это способ дестабилизации, и самое главное – это введение в паралич страны на более продолжительный период*».

Следом за спикером свое веское слово сказал премьер-министр Владимир Гройсман. Он заявил, что не боится отставки и готов в любой момент отчитаться о работе Кабмина. Далее он – вероятно, по примеру Дональда Трампа – решил делать программные заявления через «Твиттер»: «*Сейчас нет оснований для проведения досрочных выборов. Можем за эти полтора года сделать много полезных для страны решений...*»

Наконец, молодой премьер и вовсе признал, что ему с президентом не по пути и победу ему он обеспечивать не будет: «*Я хочу бороться за Украину и буду участвовать в очередных парламентских выборах. Также я хочу привести с собой преданных людей, которые конкретными решениями и шагами будут менять Украину*». Да и вообще, оказывается, у премьера масштабная программа восстановления дорог в Украине: «*Если вы едете по новым дорогам, это и есть дороги правительства Гройсмана, построенные в рамках нашей программы. А те разрушенные дороги, которые вы видите, это не дороги нашего правительства...*»

Министр МВД Арсен Аваков, упредив президента, предложил свою стратегию по возвращению Донбасса Украине и тем самым напрямую вторгся в епархию Петра Порошенко. Сделав заявление, министр тут же укатил в США то ли на смотрины, то ли презентовать свою стратегию, то ли за «черной меткой» для президента.

## Конец операции «Президент»?

Одновременно с этими событиями еще в недавнем прошлом уншлый «решальщик», оказывающий специфические теневые услуги украинским политикам, а ныне после возбужденных уголовных дел сбежавший за границу депутат Александр Онищенко предает огласке аудиозапись разговора с лицом, голос которого удивительно схож с голосом Петра Порошенко. Из аудиозаписи можно сделать вывод, что президент берет взятки миллионами. Депутат готов предоставить оригинал записи компетентным органам Украины для экспертизы. Вслед за его заявлением одно из крупнейших немецких изданий газета Die Welt публикует расследование о коррупции Порошенко.

Экс-глава СБУ Валентин Наливайченко считает: «*Разоблачения Александра Онищенко могут стать самым громким делом в истории Украины, если антикоррупционные органы, в частности НАБУ, САП, действительно созданы с целью преодоления коррупции в Украине, то должны быть открыты уголовные дела против президента Порошенко и его окружения, замешанного в коррупции, подкупе парламентариев, должно быть следствие и суд*». Пока Петр Порошенко исполняет обязанности президента – это, конечно, ему не грозит. А после – все может быть.

Ну а что же гарант? Наверное, в шоке, пока молчит и обдумывает. Зато взял слово его кум, генеральный прокурор Украины Юрий Луценко. Строптивому премьеру он намекнул: «*Прокуратура проверит состояние дорог, капитальный ремонт которых проводился последние 2 года. В случае очевидного разрушения этих объектов будем возбуждать уголовные дела...*» Про парламент тоже не забыл: «*У меня есть материалы о снятии неприкосновенности с ряда депутатов...*».

Насыщенная событиями выдалась неделя. Закручивается интрига, достойная сценария американского блокбастера. Мяч на стороне президента. Каков будет ответ?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

В УКРАИНЕ

# «АТО закончено»

*Петр Порошенко начал операцию Объединенных сил на Донбассе*

Как сообщает пресс-служба украинского президента, Порошенко подписал указ «Об утверждении решения СНБО «О широкомасштабной антитеррористической операции на территории Донецкой и Луганской областей». Порошенко также подписал приказ Верховного Главнокомандующего ВСУ «О начале операции Объединенных сил по обеспечению национальной безопасности и обороны, отпора и сдерживания вооруженной агрессии Российской Федерации на территории Донецкой и Луганской областей».

«*Уверен в том, что это не просто смена формата. Это новые возможности защиты украинской территории, украинских граждан. Мы сделаем все возможное, чтобы как можно быстрее земля оккупированного Донбасса вернулась под суверенитет Украины, а для сотен тысяч, миллионов временно перемещенных лиц, вынужденных покинуть донецкую и луганскую земли, мы создадим условия для того, чтобы они как можно быстрее вернулись и восстановили нормальную жизнь на Донбассе*», – подчеркнул Порошенко.

Он поблагодарил командующего АТО Михаила Забродского «*за блестящее исполнение задач*» и передал управление командующему Объединенных сил генералу Сергею Наеву.

«*АТО закончено*», – подчеркнул Порошенко.

В то же время он отметил, что завершение режима широкомасштабной антитеррористической операции «*не лишает нас возможности объявления АТО в любое время, когда возникает террористическая угроза на освобожденных территориях*».

ПУЛЬС

## Трамп и Ким Чен Ын могут встретиться на границе двух Корей

Президент США Дональд Трамп предложил встретиться с северокорейским лидером Ким Чен Ыном в демилитаризованной зоне Пханмунджом на границе Северной и Южной Кореи. Также, по его словам, рассматривается и Сингапур.

Как известно, во время межкорейской встречи на высшем уровне в Пханмунджоме 27 апреля Ким Чен Ын и Мун Чжэ Ин договорились о полном ядерном разоружении на Корейском полуострове, а также об официальном окончании состояния войны, в котором обе страны находятся со времен корейского конфликта в начале 1950-х годов.

## В Афганистане погиб пятый сотрудник Би-Би-Си

Журналист Би-Би-Си Ахмад Шах был убит на востоке Афганистана, в провинции Хост. В результате серии терактов в понедельник там погибли около 40 человек, включая других работников прессы. Ахмаду Шаху было 29 лет, он уже пятый сотрудник Би-Би-Си, погибший в Афганистане с 1990-х годов, когда в стране началась гражданская война.

В прошлом году международная организация «Репортеры без границ» назвала Афганистан третьей самой опасной для журналистов страной в мире.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак У №№31–34.)*

## 3. На вуліцах Магільнага войскі Вермахта. Першых немцаў прывіталі музыкай

У нашым мястэчку немцы з'явіліся прыкладна на дзясяты дзень пасля заканчэння масавага адыходу праз яго злучэнняў Чырвонай Арміі. За гэтыя дзесяць дзён якія толькі думкі не прыходзілі ў галовы людзей! Будучы наглуха адрэзанымі ад навакольнага свету, некаторыя з іх меркавалі, што дзесьці, мо зусім недалёка ад Магільнага, ідуць кровапралітныя баі і вось-вось па яго вуліцах ізноў закрочаць чырвонаармейцы, толькі ўжо не на ўсходнім, а ў заходнім напрамку. Не, такога не адбылося. У мястэчка ўварваўся вораг, прычым не з таго боку, адкуль чакаўся. Першая група матацыклістаў на вялікай хуткасці мчалася з боку Вузды, а не Стоўбцаў, выбраўшы дзеля свайго маршруту надаўна пабудаваную шашу. Адбылося такое недзе апоўдні, калі дарослыя людзі знаходзіліся на сенажаці альбо ў полі. Я ў гэты час разам з сябрамі купаўся ў Нёмане, каб трохі адпачыць і зноў падаця ў лес па дары прыроды. Не падаўся, бо карцела ведаць, а што ж там у мястэчку робіць гэтыя матацыклісты. Такое ж жаданне было і ў астатніх хлопцаў. Рушылі ў цэнтр мястэчка, дзе заўсёды пры якой-небудзь сур'ёзнай нагодзе збіраліся людзі. Так яно было і на гэты раз. Моцна здзівіла, што каля плота ўжо паспелі сабрацца мясцовыя музыканты (не ведаю, па чыёй ініцыятыве) і свайм далёка не прафесійным іграннем віталі нямецкіх матацыклістаў. Такое ім вельмі падабалася. Думаю, шкадавалі, што не мелі пры сабе кінакамеры, а вось фотаапаратамі шчоўкалі ўволю. Хтосьці з дарослых крыкнуў:

– Дзеці! Чаго стаіце? Бяжыце дахаты, нясіце немцам яйкі!

Кінуўся бегчы і я. Мама якраз была ў хаце, бо ў яе моцна балелі зубы. Яек мне не дала, патлумачыўшы, што ў нас іх не стае і для сваёй патрэбы, нават хвораму бацьку. Вярнуўся да месца першай сустрэчы магілян з немцамі і стаяў трохі наводдаль ад людскога натоўпу, бо яек жа не прынёс. Ні ў гады акупацыі, ні пасля яе не было прынята ўзгадваць пра тую "ўрачыстую" сустрэчу немцаў магілянамі. І вядома чаму. Я ж лічу, што яе наладзілі толькі дзеля ўхілення ад якіх-небудзь рабаўніцкіх акцый з боку немцаў супраць мясцовага насельніцтва. Сярод жа музыкаў стаяў на першым плане і граў галоўную скрыпку двухметровы Костусь (і раней, і зараз гэтае імя ў нашай мясцовасці пішуць толькі праз "о"), два сыны якога перад вайной служылі ў Чырвонай Арміі і не маглі не ўдзельнічаць у баях з фашыстамі.

Я не ваенны тактык, а тым больш не ваенны стратэг, таму магу памыліцца пры вызначэнні асноўнай мэты нямецкага матацыклетнага дэсанта ў Магільнае і яго наваколле. Думаю, што ёю паслужыла неабходнасць вывучэння стану мясцовых дарог, каб па іх пусціць на ўсход пэўную частку войскаў Вермахта, паколькі галоўныя аўтамагістралі з-за вялікай перагрузкі не спраўляліся з гэтай задачай.

### Канфлікты абміналі мястэчка

Літаральна на другі дзень пасля сустрэчы з матацыклістамі ўсё Магільнае дрыжэла ад магутнага гулу баявой тэхнікі. Ні пешшу, ні на павозках ніхто не рухаўся наперад. Усю нагрузку ўзяў на сябе аўтатранспарт. Здзіўлялі свaімі велізарнымі габарытамі розныя віды баявой тэхнікі. Параўноўваючы ўсё гэта з тым, што даводзілася бачыць пры адступленні войскаў Чырвонай Арміі, практычна ўсе магіляне згаджаліся з няраднай думкай, што больш ніколі яны не вярнуцца ў нашыя краі.

У якасці цяглавай сілы немцы выкарыстоўвалі і коней, але не такіх, як у савецкім войску. Усе яны былі бельгійскай пароды, з кароткімі хвастамі, і здавалася, што па сіле ніколькі не саступаюць аўтамашынам-палутаркам, што былі ў нашым калгасе. З такімі коньмі немцы з'явіліся ў нашым мястэчку значна пазней, калі ўжо па ім завяршыўся рух баявой тэхнікі, аўтакалон.

Масавы характар насіла выкарыстанне немецкімі салдатамі самых розных марак матацыклаў, веласіпедаў, намнога лепшых за савецкія. Словам, ніхто з завяеўнікаў не намульваў ногі на нашай зямлі. Уражвалі вясёлыя твары салдат. Ехалі ў адкрытых кузавах аўтамашын, на конных павозках нібыта на якое-небудзь вялікае свята, а не ўдзельнічаць у баявых аперацыях. Часта чуліся вясёлыя, бадзёрыя маршавыя песні. Аднойчы на беразе Нёмана, калі ў немцаў надарылася магчымасць пакупацца ў яго тады выключна чыстых, празрыстых водах, адзін з салдат на ўвесь голас зацягнуў папулярную савецкую "Кацюшу". На наша пытанне, адкуль ён ведае гэтую песню, даў такі адказ:

– Я участвовал в сентябре 1939 года в войне Красной Армии с Польшей. Как только наша часть вплотную приблизилась к немецкой и возникла возможность перейти на ее сторону, незамедлительно воспользовался этим подарком.

Гэты салдат папрасіў нас разам з ім паспяваць "Кацюшу". Згадзіліся. Як толькі пачалі спяваць, немцы нас тут жа сфатаграфавалі і ўзнагародзілі апладысментамі.

Увагу не толькі дзяцей, але і дарослых прыцягвала ігра нямецкіх салдат на губных гармоніках. Раней з такім інструментам нам не даводзілася сустракацца. Іншым разам дастаткова было ахвяраваць дзясятак курыных яек, і губны гармонік у тваёй кішэні. Мне ж далі дарма за тое, што ўмеў трохі гаварыць па-нямецку (па школьнай праграме за 5-ы клас). Іграць так і не навучыўся. Гэтым інструментам авалодаў самастойна і даволі хутка толькі адзін з магільнянскіх хлопцаў, якога звалі па-вулічнаму Майсееў Міша (прозвішча Лукашэвіч).

Многіх немцаў вызначала павышаная зацікаўленасць да жыцця насельніцтва акупаванай тэрыторыі. Аднойчы нас, дзяцей, папрасілі падвесці да хаты, дзе жыве ўдарнік ці стаханавец. Нічога адметнага не ўбачыўшы ў абліччы, паводзінах такіх людзей, дапытлівыя немцы ўсё ж засталіся задаволенымі сустрэчай з імі. З асаблівай прыемнасцю размаўлялі з ваеннапалоннымі часоў Першай сусветнай вайны, па-добраму здзіўляючыся, што яны яшчэ не забыліся нямецкай мовы. Недалёкаму ад нашага дома суседу дзядзьку Івану за здольнасць паразмаўляць па-нямецку надавалі столькі цукерак і пячэння, што ён нават не пашкадаваў і з намі падзяліцца гэтымі ласункамі. Далі яму і шмат цыгарэт. Імі ўжо не падзяліўся з намі. А хацелася, бо надта ж духмянымі падаваліся яны ў параўнанні з гродзенскай махоркай, да якой зрэдку ўпотай ад бацькоў прыкладаў і я руку.

У нямецкім войску знаходзілася нямала людзей самых розных нацыянальнасцяў, але найбольш рускіх, прычым нават і тых, хто ваяваў супраць чырвонаармейцаў у гады грамадзянскай вайны. Мне ўдалося папрысутнічаць у час вечаровай размовы аднаго з іх з мужчынамі нашай Кавалёўскай вуліцы. Стольki выказаний ім нянавісці да бальшавікоў, Саветаў, камунізму мне ні да гэтага, ні пазней не даводзілася чуць. Былы царскі салдат з такой радасцю ішоў, паводле яго слоў, "добивать эту нечисть", што нават даволі салідны ўзрост не з'яўляўся яму перашкодай для пераняcення ўсіх цяжкасцяў вайны.

Агульнавядомыя жорсткасць, здзекі немецкіх захопнікаў з савецкіх ваеннапалонных, асабліва палітработнікаў і афіцэраў, чаму, аднак, былі і выключэнні. У двары суседняга дома бачыў сярод немцаў савецкага афіцэра ў поўнай форме (толькі без пятліц), які выконваў розныя іх даручэнні (найчасцей за ўсё кухонныя), прычым і застаючыся сам-насам. Калі я і хлопец з гэтага дома Толя Дзесюкевіч цвёрда перакаваліся, што ўсе немцы гэтай групы пайшлі на Нёман купацца, мы сталі прапаноўваць савецкаму афіцэру арганізаваць уцёкі агародамі, за якімі было балота (не багністае), а за ім лес. Абяцалі забяспечыць цывільным адзеннем, даць што-небудзь з яды на дарогу. Афіцэр адмовіўся, сказаўшы:

– Вы, пацаны, лучше поищите в огороде что-нибудь из зелени, чтобы у меня вкусный борщ получился.

Паслухаліся. Калі вярнуліся салдаты, боршч быў згатаваны. Кожны з іх, з'еўшы сваю порцыю, хлопаў савецкага афіцэра па плячуку, прыгаворваючы "Danke!". Паабедаўшы, салдаты разам са сваім савецкім палонным паўскоквалі ў кузаў аўтамашыны і накіраваліся ў дарогу.

### Пакаранне за самаўпраўства

Непрыемныя сітуацыі ў жыхароў Магільнага сталі ўзнікаць, калі праз яго пачалі рухацца ар'ергардныя, тылавыя часткі нямецкага войска. У іх меліся пэўныя праблемы з забеспячэннем салдат і коней харчаваннем, што імкнуліся кампенсаваць хоць у нейкай ступені за кошт мясцовага насельніцтва. Найбольшыя страты панеслі прыдарожныя пасевы яравых і азімых культур. Ар'ергардныя нямецкія вайсковыя часці даволі часта выкарыстоўвалі ў якасці транспартнага сродку і на тэрыторыі Беларусі падводы аж з самой Польшчы. Каб не даць знясіліцца свaім коням, польскія возчыкі ў час прывалу выпшавалі іх на засеяных збожжавымі культурамі палях. Адзін з такіх надзвычай ужо руплівых возакоў не стрымаўся і скасіў, знайшоўшы пад страхой касу, нават у агародзе пры самай хаце Васіля Лыча (па-вулічнаму: Пінчукоў) каля дзвюх сотак маладога зялёнага проса. Убачыўшы такую патраву, гаспадыня кінулася ў плач. Суседзі параілі шукаць абароны ў каго-небудзь з нямецкіх камандзіраў. Знайшла. Меру пакарання выбралі строгую: загадалі зняць порткі, легчы жыватом на лаўку. Пасля двух-трох удараў шомпалам раздаўся такі енк, што сама гаспадыня стала прасіць спыніць далейшае пакаранне. Спыніліся не адразу, але казалі, што да дзесяці удараў шомпалам не дайшло. Скошанае проса, паколькі ў гаспадароў у ім патрэбы не было, пагрузілі на воз, але з імі належным чынам разлічыліся прадуктамі харчавання і духмянымі цыгарэтамі.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

САЛІДАРНАСЦЬ

## «Патушыць» Турцыю…

Верталёт беларускага МНС Мі-8 заступіў на дзяжурства ў Турцыі для аказання дапамогі ў тушэнні лясных пажараў, паведаміла прэс-служба ведамства. У складзе экіпажа сем чалавек. Пры неабходнасці ён дастaвіць мясцовых ратавальнікаў да месцаў узгарання.

У 2017 годзе супрацоўнікі МНС выканалі ў Турцыі 91 баявы вылет. На ачагі пажараў скінута амаль 1140 тон вады, перавезена больш за 200 пасажыраў. *«Беларускія авіятары валодаюць вялікім вопытам па тушэнні ачагоў узгарання ў цяжкадаступнай мясцовасці. За адзін заход на агонь з дапамогай адмысловай прылады скідваецца да трох тон вады»*, – адзначаюць у ведамстве.

Тым часам у Беларусі ў сувязі з трэцім класам пажарнай небяспекі ў лясах экіпажы верталётаў Мі-2 авіяцыі МНС працягваюць аблёт паўднёва-ўсходніх раёнаў для выяўлення лясных пажараў на пачатковай стадыі. У выпадку неабходнасці тушэнне пажараў пачнуць як верталёты Мі-8, так і самы грузападымальны верталёт у свеце Мі-26.

МУДРЫЕ МЫСЛИ

*«По отношению каждого человека к своему языку можно совершенно точно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности.*

*Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к своему языку, – дикарь. Он вредоносен по своей сути, потому что его безразличие к своему языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа».*



**Константин ПАУСТОВСКИЙ** *(1892–1968).*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Пачуць голас нябёсаў і роднай зямлі…





Сёлета шмат мерапрыемстваў рознага ўзроўню – пачынаючы з фестываляў і заканчваючы суботнікамі – прысвячаюцца абвешчанаму ў Беларусі Году малой Радзімы. Хаця раз-пораз ад гэтай нібыта пачэснай справы адчуваецца подых фармалізму. Ужо даводзілася пачуць, што персанальная выстава сябра Беларускага саюза мастакоў **Кастуся Качана** "Правінцыя", якая праходзіць у Мінску ў Мастацкай галерэі Міхася Савіцкага і будзе працаваць да 20 мая, таксама прымеркавана да гэтай падзеі. Можа, яно і так, але ў Качана адносіны з радзімай ніколі не былі фармальнымі. Ён быў і застаецца шчырым сынам Беларусі, нягледзячы ні на якія афіцыйныя назвы.

Гаворачы пра Кастуся і іншае мастацтва, і я не хачу быць фармалістам. Адразу скажу: выстава ўдалася і парадавала новымі здабыткамі аўтара. Ды найперш дазволю сабе прыгадаць адну з першых ягоных выстаў, якая стала выбітнай з'явай у Навагрудку.

Гэта было крыху больш за трыццаць гадоў таму. Я працаваў у раённай газеце і неяк зімовай раніцай каля будынка "раёнкі" ўбачыў каларытнага барадатага дзядзьку ў кажуху і з мальбертам. Ён маляваў царкву. Разгаварыліся і, як кажуць, адразу сышліся характарамі. І галоўнай нагодай стала тое, што, хоць нашы думкі і жаданні займала мноства жыццёвых праяў (і далёка не аскетычных), нашым агульным сусветам была Беларусь. Яна захіляла ўсё, яна была жывая, і мы інтуітыўна служылі ёй. Ствaралася кола аднадумцаў, а пасля і патрыятычнае аб'яднанне "Сваякі", накшталт "Майстроўні" і "Талакі". Такіх суполак у райцэнтрах таго часу я і не прыгадаю, хаця, упэўнены, яны былі.

А неўзабаве адкрылася выстава Кастуся. Уваччу і цяпер тыя ягоныя карціны і эцюды. Абсалютна нечаканая колеравая гульня фарбаў, нейкі мякка-сумны настрой і мноства пейзажаў. Філасофія навакольнага і ўнутранага свету чалавека. "Апошні шлях хрысціяніна" – так называлася адна з прац як адзін з накідаў на тэму жыцця і смерці.

На палотнах уражвалі нечаканы погляд на вуліцы і завулкі Навагрудка, тутэйшых вёсак і найперш ягонага роднага Лаўрышава, куды мастак у той год і вярнуўся з Мінска.

Кастусь здзіўляецца: журналісты ўвесь час акцэнтуюць увагу на тым, што ён не мае мастакоўскай адукацыі – скончыў фізфак. Факт, вядома, цікавы. Ды ці гэта галоўнае?

Бог адарыў яго талентам жывапісца, але і гэтага мала, калі ты не чуеш голасу нябёсаў і роднай зямлі. Кастусь пачуў яго, гэты голас. І слухае ўвесь час…

І праз 30 гадоў яго непаўторны мастацкі стыль пазнаецца адразу. На адкрыцці выставы шмат хто акцэнтаваў увагу на тым, што Качан – рэаліст. Я не вытрымаў, падышоў да **Уладзіміра Арлова**:

– Які ён рэаліст?! Па мне, дык у ягоным жывапісе сімвалізму болей, чым рэалізму…

Абышоўшы выставу два разы, звярнуў увагу на некалькі карцін, што мяне кранулі (цікавасць выклікалі амаль усе).

**"Дождж".** Яна – суцэльны вобраз. Нібы іголкі працінаюць палатно, а па ягоных баках, здзецца, фарбаў зусім няма. Але і іх вонкавая адсутнасць – таксама колер. Застаецца толькі праткнёная прастора і цёплы сум, які ахоплівае цябе. Зрэшты, такая рэакцыя пры знаёмстве з творамі Качана з'ява натуральная.

**"Ячменнае поле".** Уся карціна быццам адно суцэльнае поле. І толькі на ўскрайку, увышыні, бліжэй да неба віднеюцца царкоўныя купалы і вершаліны дрэў. Створана яна ў Валеўцы – на Навагрудчыне, непадалёку ад славутага возера Свіцязь.

Неабходна адразу заўважыць, што назва выставы "Правінцыя" стасуецца ў мастака не толькі з роднай Навагрудчынай. Тут можна ўбачыць працы, створаныя ў Ашмянах, Пінску, Іўі, у ваколіцах Белавежскай пушчы ды іншых мясцінах.

Напрыклад, на карціне **"Зімовы вечар у Гальшанах"** натуральна выглядае супольнае жыццё людзей і жывёл (заўважце – не машын). Заклапочана шыбуюць людзі, а запрэжаны ў сані конь няспешна перабірае накіданае прама на снег сена…

Творы Кастуся Качана знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, у шматлікіх музеях і фондах нашай краіны і замежжа, у прыватных калекцыях Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША ды іншых краін.

І яшчэ ён здзейсніў вялізную патрыятычную справу – у Навагрудку, каля Замкавай гары, Качан пабудаваў мастацкую галерэю."Сядзібу Кастуся Качана" наведваюць мясцовыя жыхары (у тым ліку школьнікі і навучэнцы каледжаў), госці горада (у тым ліку замежныя).

На адкрыцці выставы Кастусь Качан сказаў:

– Творы, якія вы бачыце, – гэта тое, што я люблю. Вельмі хачу, каб гэта любоў перадалася і вам.

Спадзяюся – так і будзе.

**Міхась ДУБРОВІЦА.**

СІТУАЦЫЯ

# Выслалі…

*Беларусь пакінуў ксёндз Кшыштаф Пасвята, пробашч парафіі Св. Міхаіла Арханёла пасёлка Гатава, што пад Мінскам.*



Нашаму выданню святар расказаў, што спадзецца на сустрэчу мітрапаліта **Тадэвуша Кандрусевіча** з упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў **Леанідам Гулякам**, якая адбылася 27 красавіка і падчас якой павінна было вырашыцца пытанне, ці змога Кшыштаф Пасвята і далей працаваць у Беларусі. Аднак перамовы станоўчага выніку не далі. 30 красавіка ксёндз Кшыштаф пакінуў нашу краіну, дзе служыў 7 гадоў. Ён вёў актыўную будоўлю касцёла ў Гатаве. Дзякуючы яго намаганням быў узведзены пастырскі цэнтр для дзяцей і моладзі, які карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод маладых жыхароў пасёлка. А падставай для пазбаўлення Пасвяты права служыць у Беларусі сталі тры парушэнні правілаў дарожнага руху (перавышэнне хуткасці), якія святар здзейсніў на працягу года.

*– Не ведаю, чаму не атрымалася мяне пакінуць*, – расказаў на развітанне "Народнай Волі" святар. *– Ведаю, што перамовы мітрапаліта Кандрусевіча са спадаром Гулякам доўжыліся 2,5 гадзіны. Але ўсё марна… Безумоўна, я вельмі засмучаны тым, што мушу пакінуць Беларусь. Так, я паляк, але сваю місію я заўсёды праводзіў па-беларуску. Я палюбіў Беларусь і сваіх прыхаджан і не разумею, чаму людзей трэба пазбаўляць душпастыра... Канешне, я вельмі хачу бы зноў сюды вярнуцца. Але не ведаю, як гэта будзе суадносіцца з тым, што мне не працягнулі дазвол на служэнне ў Беларусі праз адміністрацыйныя парушэнні. Хаця, калі парушыў, можна было забраць аўтамабіль, забараніць ездзіць на нейкі перыяд, але навошта высылаць мяне з Беларусі?.. Будзе так, як Бог падрыхтаваў…*

У сваю чаргу мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч на сайце Беларускага касцёла зрабіў такую заяву: *«Вельмі шкада, што так адбываецца. Ён так шмат зрабіў для Касцёла ў Беларусі і мог бы зрабіць яшчэ больш… Закон аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, прыняты ў Беларусі ў 2010 годзе, гаворыць, што замежнік можа не атрымаць візу, калі мае* ***пяць і больш*** *адміністрацыйных правапарушэнняў.*

*Гаворка ідзе пра пяціразовае парушэнне, а не двух- ці трохразовае. Выходзіць, замежнікаў дзеляць на два гатункі: просты чалавек і святар. Гэта сапраўдная дыскрымінацыя замежных святароў.*

*Ніхто не ставіць пад сумнеў, што беларускія законы павінны выконвацца, але ці гэты юрыдычны аспект варта ўлічваць».*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Ксения МИРНАЯ: «Мы с ужасом смотрели, как полыхает в огне наша комната…»


Ксения и Максим в 2004 году в Италии.

*Жена известного белорусского теннисиста Ксения Мирная вчера рассказала историю о том, как она вместе с Максимом спаслась от пожара в Риме.*

*Случилось это в 2004 году в отеле «Парко дей Принчипи», который входил в число лучших гостиниц итальянской столицы.*

*Тогда из отеля эвакуировали всех гостей, в том числе теннисных звезд Энди Роддика, Марата Сафина и других известных теннисистов, приехавших на турнир «Италиэн Оупен». Правда, спасти удалось не всех – погибли три человека. Основными версиями возгорания назвали неполадки в электрооборудовании и непотушенную сигарету.*

– 1 мая 2004 года стал для Макса и меня нашим общим днем рождения, – *рассказала Ксения Мирная в Инстаграме.* – Уже 14 лет прошло, а я все помню, как будто это было вчера...

Глубокой ночью меня разбудили странные звуки за стеной, я подошла к двери, посмотрела в глазок и ужаснулась – там был огонь... Я вернулась в комнату с криками: «Макс, там что-то горит!» – и с трудом растормошила его: под утро сон глубокий, но возможно, что это было воздействие дыма. Макс попытался позвонить на рецепшен, но связи уже не было. «Надо бежать вниз», – спокойно сказал он мне, намочил халат и дал мне мокрое полотенце, чтобы я покрыла голову и лицо... Я стала умолять его не делать этого, не представляя, куда бежать: «Пойдем на балкон, скоро приедут пожарные и снимут нас оттуда...» Но они приехали только через несколько часов… К этому времени сгорел уже весь третий этаж, на котором была наша комната. Как выяснилось, очаг возгорания был через комнату от нашей. Единственным шансом спастись был горящий коридор, который вел к лестнице, – его нужно быстро пробежать... И мы это сделали вместе... А через несколько минут с ужасом смотрели с улицы, как полыхает в огне наша комната. Языки пламени уже облизывали наш балкон... Это было ужасно!


Семья Мирных сегодня.

Честно говоря, я думала, что после этой истории мы первым же рейсом вернемся в Минск. Но Макс, вопреки моим ожиданиям, лишь попросил папу выслать ему ракетки и форму, и уже через день вышел на корт. И, кстати, выиграл тогда этот римский турнир в паре с Махешем Бхупати.

Помню, что вечером, накануне пожара, возвращаясь с ужина в гостиницу, мы долго гуляли, говорили о любви, мечтали о будущем и благодарили Бога за то, что нашли друг друга и счастливы.... Теперь мне кажется, что именно наше желание жить и благодарность к тому, что мы имели, спасли нам тогда жизнь...

**Фото из соцсетей Ксении Мирной.**

ПРОИСШЕСТВИЕ

## Инспектор ГАИ разбился на мотоцикле



ДТП произошло вечером 30 апреля в Гомеле. Мотоцикл ГАИ преследовал мотоцикл «Хонда CBR» без регистрационных знаков, сообщил БЕЛТА официальный представитель УВД Гомельского облисполкома Виталий Пристромов.

Мотоцикл ГАИ столкнулся с ехавшей в попутном направлении и совершавшей разворот с крайней левой полосы машиной «Ниссан Кашкай». В результате столкновения автомобиль отбросило на встречную полосу, произошло возгорание мотоцикла. Инспектор ДПС 1988 года рождения с тяжелыми травмами был доставлен в реанимационное отделение Гомельской областной клинической больницы, где скончался. Водитель и пассажир машины «Ниссан Кашкай» не пострадали.

Личность нарушителя-бесправника позже установили. Им оказался житель Речицы 1997 года рождения. Он неоднократно привлекался к административной ответственности за нарушение правил дорожного движения. Управлением Следственного комитета по Гомельской области по факту ДТП возбуждено уголовное дело по ч.2 ст.317 УК – нарушение ПДД, повлекшее по неосторожности смерть человека. Максимальное наказание по этой статье – пять лет лишения свободы.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Ехали с вызова, попали в страшную аварию…



Вчера в Могилеве в ДТП попала машина «скорой помощи». Фельдшер получила тяжелую травму позвоночника.

ДТП произошло рано утром 1 мая, примерно в 6 утра. На перекрестке столкнулись легковой автомобиль «Форд» и машина “скорой помощи”. От удара «скорая» столкнулась с проезжавшим рядом «Ситроеном» и опрокинулась на крышу.

По предварительным данным, аварию спровоцировал водитель «Форда”, который при выезде на перекресток не уступил дорогу машине «скорой помощи», которая возвращалась с вызова. В салоне помимо медработников находился и пациент. *«С ним все в порядке, получил мелкие травмы, жизни и здоровью ничего не угрожает* – сообщили нам в Могилевском облздравотделе. – *А вот фельдшер серьезно пострадала, у нее травма позвоночника. Но она в сознании. Коллеги из столицы были готовы помочь, но пока справляемся своими силами».* Всего в аварии пострадало 5 человек, трое госпитализированы в Могилевскую больницу скорой помощи.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

СПАДЧЫНА

## «Даручаем вяльможнаму адміністратару Скарбу Вялікага Княства выбіць 1 мільён шэлегамі»

*Як працавалі манетныя двары ў Брэсце, Гродне і Полацку*

### І бурштын быў грашыма

У дзесяцігадовым узросце я стаў калекцыянерам – пачаў збіраць грошы. У той час яшчэ не ведаў, што калекцыянеры дзеляцца на групы: нумізматы збіраюць манеты, баністы – папяровыя грошы, фалерысты – ордэны, медалі і значкі.

Я збіраў грошы і ўсё, што з імі звязана: кашалькі, скарбонкі, чэкі, вэксалі, аблігацыі, латарэйныя квіткі, распіскі, квітанцыі, пазыковыя лісты. Сам час тады спрыяў гэтаму – у СССР праводзілася грашовая рэформа 1947 года, і на руках у насельніцтва была аграмадная маса самых розных грошай – і царскай Расіі, і кайзераўскай Германіі, і Польшчы, і першых Саветаў, і фашысцкай Германіі, і другіх Саветаў…

За сваё доўгае жыццё я прайшоў усе этапы калекцыяніравання – ад колькаснага збіральніцтва да якаснага даследавання. І толькі праз многія гады ўзнікла ў мяне жаданне прасачыць у прасторы і часе месцы выпуску грошай (ці іх заменнікаў), што хадзілі на беларускіх землях.

Найперш варта згадаць узбярэжжа Балтыйскага мора, дзе было багата бурштыну (ён выконваў ролю плацежных сродкаў), затым –крэменездабываючыя шахты пад Краснасельскам на Ваўкавышчыне (крэмень таксама часам выступаў грашовым заменнікам), затым – гарады Бліжняга і Сярэдняга Усходу (там чаканілі срэбныя дырхемы), затым – старажытная Грэцыя, Рымская імперыя, Візантыя, Аўстра-Венгерская імперыя, Расійская імперыя… Здаецца, увесь свет імкнуўся забяспечыць нашых продкаў грашыма. Таму, відаць, у Беларусі іх вечна і не хапала.

Грошы свайго вырабу з’явіліся ў нас толькі тады, калі на нашых землях было ўтворана магутнае Вялікае Княства Літоўскае. У ягонай сталіцы Вільні пачалі чаканіць манеты для патрэб вялікай дзяржавы – ад Балтыйскага да Чорнага мора, ад Мазавецкага княства на захадзе да Мажайскага на ўсходзе.

Да Люблінскай уніі (1569) “літоўскія” манеты былі даражэйшыя за “каронныя” (польскія) – за 4 “літоўскія” грошы давалі 5 “польскіх”. Быў нават перыяд з 1530-га па 1572 год, пры Жыгімонце ІІ Аўгусце, калі, раззлаваўшыся на польскую шляхецкую вольніцу, кароль закрыў усе манетныя двары ў Польшчы, прымусіўшы ўсю Рэч Паспалітую карыстацца грашыма ВКЛ, што вырабляліся ў Вільні.

Давайце больш падрабязна разгледзім дзейнасць манетных двароў у гарадах, якія сёння знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

### Брэсцкі манетны двор

22 сакавіка 1659 года Варшаўскі сойм прыняў пастанову “Аб чаканцы манеты”, у якой гаварылася: “Належыць для парадку і карысці ўсеагульнай, абы мынніца *(так у той час называліся манетныя двары)* была заснавана ў Вялікім Княстве Літоўскім на цяперашнія Рэчы Паспалітай патрэбы, абдумваючы спосабы, як абавязкова выплаціць нашым войскам доўг. З усеагульнай згоды пастанаўляем, каб у Брэсце Літоўскім як найхутчэй закладзена была. Даручаем цяпер вяльможнаму адміністратару Скарбу ВКЛ, каб эфектыўна выканаў усё гэта коштам Рэчы Паспалітай. І найперш дазваляем выбіць 1 мільён шэлегамі”.

Вельмі цяжкія палітычныя і эканамічныя абставіны ў краіне затрымалі выкананне соймавай пастановы. Брэсцкі манетны двор запрацаваў толькі ў 1665 годзе (пасля прыняцця новай пастановы) і дзейнічаў нядоўга, трохі больш за год. Усяго брэсцкія манетчыкі выпусцілі каля 250 мільёнаў медных манетаў-барацінак. Для зручнасці яны запакоўваліся ў адмысловыя мяшэчкі па 10 злотых (вага 1,17 кг) альбо па 100 злотых (11,7 кг).

Што ўсё ж прымусіла караля і вялікага князя Яна ІІ Казіміра Вазу адкрыць манетны двор у Брэсце? Бо ўжо працавалі на той час Віленскі (1664–1666) і Ковенскі (1665–1666) манетныя двары.

Галоўная прычына – бунтуючае войска, якому дзяржава завінавацілася велізарныя сумы. Плюс заняпад эканомікі, гарады ў руінах, занядбаная сельская гаспадарка. А казна – пустая. І вайна з Масковіяй працягваецца…

Пералом наступіў толькі пасля Аліўскага (пад Гданьскам) замірэння са Швецыяй (1660). На ўсходзе ВКЛ яшчэ ішлі баі з маскоўскімі войскамі, а ў Брэсце ўжо шукалі будынак пад новы манетны двор. Войска патрабавала грошай. Прадпрымальны італьянец Ціт Лівій Бараціні пераканаў караля Яна Казіміра, што становішча выратуе толькі медны шэлег. І кароль аддаў яму ў арэнду ўсе манетныя двары ВКЛ.

У часы Яна Казіміра (1648–1668) амаль на ўсіх манетах Рэчы Паспалітай чаканіўся яго партрэт. Нават на малюсенькім брэсцкім шэлегу – галава караля ў лаўровым вянку, а па перыметры надпіс: “Ян Казімір кароль”. Пад партрэтам – ініцыялы кіраўніка эмісіі Георга Фрыдрыха Горна – GFH. На адваротным баку манеты – “Пагоня”, пад ёю – галава аленя, фірменны знак Брэсцкага манетнага двара. Па акружнасці надпіс: “Солід Вялікага Княства Літоўскага” і год чаканкі.

Перад самым закрыццём двара, недзе ў другой палове 1666 года, на шэлегах з’явіліся літары TZH – ініцыялы Тодара Горна, брата Георгія. Манеты з такім ініцыялам – вялікая нумізматычная рэдкасць.

### І на гродзенскіх манетах – «Пагоня»

Другім на тэрыторыі Беларусі манетным дваром быў Гродзенскі. Яго двухгадовае існаванне – вынік грамадзянскай вайны ў Рэчы Паспалітай паміж прыхільнікамі прэтэндэнтаў на каралеўскі трон – саксонскага курфюрста Аўгуста ІІ Моцнага і Станіслава Ляшчынскага. Перамог Аўгуст ІІ, які ў 1703 годзе прызначыў вялікім падскарбіем літоўскім (міністрам фінансаў) Людвіка Пацея. Неўзабаве саюзнік Расіі ў Паўночнай вайне Аўгуст ІІ быў разбіты шведамі, якія пасадзілі на трон Ляшчынскага. Менавіта ў гэты час (1706–1707) Людвік Пацей, які захаваў вернасць Аўгусту ІІ, і адкрыў у Гродне манетны двор, дзе чаканіліся трох- і шасціграшовікі з партрэтам выгнанага караля. Грошы прызначаліся для разлікаў з войскам, што заставалася верным Аўгусту ІІ.

Сёння вядомы толькі адзін траяк і два тыпы шастакоў 1706 года і адзін шастак 1707 года, якія, на жаль, чаканіліся з вельмі няякаснага срэбра.

Як выглядалі тыя гродзенскія грошы? На адным баку траяка 1707 года – партрэт караля, вакол надпіс: “Аўгуст Другі з Божай ласкі кароль Польшчы, вялікі князь літоўскі, электар саксонскі”. На другім баку – “Пагоня”, пад якой ініцыялы падскарбія – *L-P* і ягоны герб – Шалі. Вакол надпіс: “Манета новая срэбная, Вялікага Княства Літоўскага. 1706”.

Раз’юшаныя прыхільнікі караля Станіслава Ляшчынскага наладзілі сапраўднае паляванне на гэтыя манеты. Тых, у каго іх знаходзілі, забівалі на месцы без суда і следства. Тады і ўзнікла сумная расшыфроўка літар *L-P* на манеце – іх чыталі як “людскі плач”. Плач гэты скончыўся ў 1709 годзе, калі на трон вярнуўся Аўгуст ІІ, а гродзенскія траякі і шастакі пачалі хадзіць па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Шкада толькі, што засталося іх няшмат. Яшчэ ў 1960-я гады я бачыў адзін такі шастак у дырэктара Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея Георгія Пеха – вялікага патрыёта Ваўкавышчыны.

Тым часам гісторыя Гродзенскага манетнага двара не закончылася. Пасля грашовай рэформы пры апошнім каралі Рэчы Паспалітай Станіславе Аўгусце Панятоўскім (1764–1795) былі ўведзены ў абарачэнне новыя наміналы. Пачалася скупка і пераплаўка манет XVII стагоддзя – тынфаў і шастакоў. Таму манетны двор у Гродне адкрылі зноў. У 1767 годзе пад яго быў пабудаваны дом, было закуплена новае абсталяванне. Але да чаканкі манет справа не дайшла.

Напалоханая прагрэсіўнымі рэформамі ў Рэчы Паспалітай і Канстытуцыяй 3 мая 1791 года, руская імператрыца Кацярына ІІ паспрыяла стварэнню Таргавіцкай канфедэрацыі магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай, скіраванай супраць караля. Канфедэраты папрасілі ў Кацярыны ІІ ваеннай дапамогі, што цалкам супадала з планамі імператрыцы, якая ўжо рыхтавала другі падзел Рэчы Паспалітай. 100-тысячнае расійскае войска разбіла 30-тысячнае войска канстытуцыяналістаў. Імкнучыся выратаваць рэформы, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1793 годзе далучыўся да канфедэратаў.

Захапіўшы ўладу ў краіне, канфедэраты спачатку зрабілі сваёй сталіцай Брэст, але неўзабаве перанеслі яе ў Гродна. Так Гродна другім разам стала сталіцай Рэчы Паспалітай. Першым разам – пры Стэфане Баторыі, які амаль бязвыезна жыў у Гродзенскім замку.

Найбольш верагодна, што менавіта ў Гродне і быў вычаканены яшчэ адзін нумізматычны рарытэт зямлі беларускай – таргавіцкі талер 1793 года. (даўнейшыя нумізматы памылкова лічылі яго медалём). Ён быў са срэбра і важыў 27,56 грама.

Эмісія таргавіцкага талера не магла быць вялікай – недзе 6–10 тысяч асобнікаў, бо рабіўся ён, хутчэй за ўсё, з ранейшых талераў (другой сыравіны канфедэраты не мелі).

Некаторыя нумізматы лічаць, што і манеты часоў паўстання Тадэвуша Касцюшкі (1794–1796) з партрэтам Станіслава Аўгуста Панятоўскага былі адчаканены на Гродзенскім манетным двары.

### Полацкаму манетнаму двару не пашчасціла

Даўнавата ўжо завітаў неяк да мяне Валодзя Луцкер з Кобрына, які часта дасылаў мне неацэнны гістарычны і нумізматычны матэрыял. Госць ужо з парога паведаміў пра манетны двор у Полацку, параіўшы пачытаць кнігу “Искусство медали” Алы Косаравай. Кніга тая ў мяне акурат была. І вось знаходжу там інфармацыю: “Алексеев Самуил Ефремович (год рождения неизвестен, умер в 1801 г.). Воспитанник Академии художеств. После закрытия Полоцкого монетного двора в 1797 году поступил рисовальным мастером на Санкт-Петербургский монетный двор”.

І ўсё. Ёсць дата закрыцця двара, але калі ён быў адкрыты? Як доўга працаваў?

У Беларускай савецкай энцыклапедыі звестак пра Полацкі манетны двор няма. У Вялікай Савецкай Энцыклапедыі – таксама. Здымаю з паліцы кнігу “Русская монетная система” І.Спаскага. Полацкі манетны двор… Ёсць! “Екатерина ІІ по вступлении на престол немедленно отменила перечеканку. Для возвращения уже перечеканенной монеты в прежнее состояние было устроено в помощь существовавшим постоянным и временным монетным дворам еще три временных – в Архангельске, Полоцке и Херсоне. Все они снабжались штемпелями, на которых настоящее место чеканки не обозначалось”.

Справа праясняецца. Чытаю далей: “Вступив на престол, Павел отменил начавшуюся было в 1796 г. перечеканку. Архангельский, Полоцкий и Херсонский монетные дворы были закрыты прежде, чем успели приступить к работе…”

Шкада – не пашчасціла Полацкаму манетнаму двару.

Аднак працягваю пошукі. Гартаю кнігу беларускага нумізмата Валянціна Рабцэвіча “О чем рассказывают монеты”. Яна карысная, ёмістая, навуковая, шкада толькі, што пра Полацкі манетны двор на яе старонках – ні слова.

Я перабраў усю нумізматычную літаратуру ў сваёй бібліятэцы. І нарэшце ў кнізе расійскага нумізмата В.Уздзенікава “Монеты России 1700–1917 гг.” знаходжу раздзел “Временные отечественные монетные дворы”. З думкай, ці не задалёка распасцерлася іхняе “отечество”, знаходжу тое, што шукаў: “В г.Полоцке монетный двор работал в 1760-е годы, выполняя обратную перечеканку медных монет, перечеканенных в 1762 г.”.

Мяне адразу збянтэжылі словы: “работал в 1760-е годы”. Тады Полацк быў яшчэ ў складзе Рэчы Паспалітай, Расія захапіла яго толькі ў 1772 годзе.

Дык калі ўсё ж быў заснаваны манетны двор у Полацку? Інфармацыю пра гэта пакуль хаваюць ад нас архівы. Што ж, трэба шукаць.



**Міхась ВЕРАЦІЛА.**
**п.Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.**

ГІСТАРЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

# Як каралеўскія гусары Стэфана Баторыя акружылі шведаў у Гродне

*Адбылося гэта напрыканцы мінулага тыдня ў Гродне, дзе прайшоў фестываль клубаў аматараў гістарычнай рэканструкцыі з Беларусі, Польшчы і Чэхіі. Фэст меў назву "Дні Стэфана Баторыя".*







Гледачоў найбольш уразіла рэканструкцыя бітвы, з аднаго боку, шведскай арміі і войска Радзівілаў, з другога – польска-літоўскай арміі гусар.

Фінал бітвы – шведы трапляюць у акружэнне каралеўскіх гусар Стэфана Баторыя.

Чаму гістарычны фестываль "Дні Стэфана Баторыя" ў трэці раз праходзіў у Гродне? У канцы XVI стагоддзя Стары Замак у гэтым горадзе з'яўляўся каралеўскай рэзідэнцыяй Стэфана Баторыя.

БІЯТЛОН

# Раўбічы ў спіс не трапілі

Міжнародны саюз біятланістаў (IBU) апублікаваў папярэдні каляндар на наступны сезон. Амаль сенсацыя: Расія не атрымала ніводнага спаборніцтва – этапы Кубка свету і Кубка IBU пройдуць у іншых краінах. У Беларусі вялікага біятлона, на жаль, таксама не будзе.

Этапы Кубка свету, у якім на працягу ўсяго сезона выступаюць усе наймацнейшыя біятланісты свету, пройдуць у Славеніі, Аўстрыі, Чэхіі, Германіі, Італіі, Канадзе, ЗША, Швецыі і Нарвегіі. Цюмень, якая прымала этап Кубка свету ў мінулым сезоне, у спіс гарадоў, дзе пройдуць этапы, не ўвайшла. Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту "Раўбічы" таксама па-за спіскам. Але, як вядома, у 2019 годзе ў Раўбічах пройдзе чэмпіянат Еўропы па біятлоне. Як мяркуецца, з 18 па 24 лютага. Акрамя таго, у 2019 годзе "Раўбічы" прымуць летні чэмпіянат свету па біятлоне.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Без шанцаў для саперніц

*Беларуска **Вольга Мазуронак** перамагла на марафоне ў Дзюсельдорфе.*



Яна прыбегла на фініш з рэкордным для гэтых спаборніцтваў часам – 2:25:25. Бліжэйшая саперніца, Фаб'ен Амрэйн з Германіі, адстала на 7 хвілін. Трэцяе месца ў Роўз Мару з Кеніі.

Вольга Мазуронак – рэкардсменка Беларусі ў марафоне з вынікам 2:23:54. Яго яна паказала на Лонданскім марафоне два гады таму, калі на фінішы была чацвёртай.

ФУТБОЛ

# БАТЭ ідзе без паражэнняў...



Адбыліся матчы 5-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.

Вось іх вынікі: "Мінск" – "Дынама" (Брэст) – 3:3, "Гомель" – "Іслач" (Мінскі раён) – 1:2, "Шахцёр" (Салігорск) – "Тарпеда" (Мінск) – 1:0, БАТЭ (Барысаў) – "Слуцк" – 3:1, "Прамень" (Мінск) – "Днепр" (Магілёў) – 2:0, "Нёман" (Гродна) – "Дынама" (Мінск) – 0:2, "Гарадзея" – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 1:1, "Смалявічы" – "Віцебск" – 1:1.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 5 | 5 | 0 | 0 | 9–1 | 15 |
| Дынама (Мн) | 5 | 4 | 1 | 0 | 8–2 | 13 |
| Віцебск | 5 | 2 | 2 | 1 | 6–4 | 8 |
| Слуцк | 5 | 2 | 2 | 1 | 6–4 | 8 |
| Тарпеда-БелАЗ | 5 | 2 | 2 | 1 | 5–4 | 8 |
| Днепр | 5 | 2 | 2 | 1 | 4–4 | 8 |
| Іслач | 5 | 1 | 4 | 0 | 3–2 | 7 |
| Дынама (Бр) | 5 | 1 | 3 | 1 | 7–8 | 6 |
| Нёман | 5 | 1 | 3 | 1 | 3–4 | 6 |
| Шахцёр | 5 | 1 | 2 | 2 | 3–4 | 5 |
| Тарпеда | 5 | 1 | 2 | 2 | 2–3 | 5 |
| Прамень | 5 | 1 | 1 | 3 | 3–7 | 4 |
| Смалявічы | 5 | 0 | 3 | 2 | 4–6 | 3 |
| Мінск | 5 | 0 | 3 | 2 | 5–8 | 3 |
| Гомель | 5 | 0 | 2 | 3 | 2–5 | 2 |
| Гарадзея | 5 | 0 | 2 | 3 | 2–6 | 2 |



ШАЙ-БУ!

# Са шчытом альбо на шчыце?

*4 мая зборная Беларусі па хакеі згуляе на чэмпіянаце свету свой першы матч.*

Дэбютная гульня са шведамі стане для беларусаў самым сапраўдным выпрабаваннем. У зборнай Швецыі не сказаць, што вельмі "зорны" склад, але 16 хакеістаў, якія выступаюць у Нацыянальнай хакейнай лізе, – гэта ўсё-такі сіла.

Наша каманда такім багатым наборам вопытных ігракоў пахваліцца не можа. **Міхаіл Грабоўскі** – адзіны прадстаўнік ад Беларусі ў НХЛ, але і той з-за траўмы ўжо некалькі год не гуляе.

Дарэчы, Грабоўскі даволі высока ацаніў працу галоўнага трэнера беларускай нацыянальнай каманды **Дэйва Льюіса** і мяркуе, што будучае першынство – вельмі добры шанц для маладых хакеістаў праявіць сябе.

*"Мне падабаецца сістэма Льюіса: ён прымушае хлопцаў гуляць у хуткі хакей,* – выказаўся Міхаіл з нагоды перспектыў зборнай на першынстве. – *Я думаю, што на чэмпіянаце павінна быць лягчэй, чым падчас таварыскіх гульняў. Ігракі прыстасуюцца адзін да аднаго, будуць больш адказныя гульні. Ёсць хлопцы маладыя і таленавітыя, якім адкрыта дарога ў зборную – прыязджай, гуляй, даказвай, трапляй у КХЛ, НХЛ. Таму ўсё будзе толькі ад іх залежаць: як яны згуляюць, як яны пройдуць гэтае выпрабаванне. А ветэраны дапамогуць ім. Я думаю, што з добрым калектывам, добрым настроем трэба выходзіць на кожны матч і верыць у перамогу".*

Зрэшты, многія ацэньваюць шанцы беларускай зборнай даволі песімістычна. Акрамя Грабоўскага не будзе ў складзе каманды вопытных братоў Касціцыных. Не выступіць за зборную і канадзец **Нік Бэйлен**, які ў 2014 годзе атрымаў беларускае грамадзянства, але, відаць, пакрыўдзіўся на тое, якім чынам з ім развіталіся ў мінскім "Дынама". Акрамя таго, ёсць праблема з варатарамі, чаго не ўтойвае і галоўны трэнер.

*"Усе тры нашы галкіперы не маюць дастатковага вопыту выступленняў на такім высокім узроўні*, – адзначыў **Дэйв Льюіс**. – *Але яны павінны гэта кампенсаваць сваёй працай на пляцоўцы і за яе межамі. У зборную запрошаны маладыя ігракі, і на кожнага з іх трэнерскі штаб ускладае вялікія надзеі".*

Дарэчы, трэнеры ўжо назвалі тых, хто адпраўляецца ў Данію. Вось склад нашай зборнай:

**варатары:** Іван Кульбакоў ("Куод-Сіці", ECHL), Віталь Трус («Нёман», Гродна), Міхаіл Карнавухаў («Дынама», Мінск, КХЛ);

**абаронцы:** Сцяпан Фалькоўскі («Антарыя», AHL), Уладзімір Дзянісаў (СайПА, Фінляндыя), Раман Дзюкаў («Сарыярка», Казахстан, ВХЛ), Яўген Лісавец («Дынама», Мінск, КХЛ), Крысціян Хенкель («Дынама», Мінск, КХЛ), Мікіта Усціненка («Юнацтва», Мінск), Павел Верабей («Куньлунь», Кітай, КХЛ), Дзмітрый Корабаў (без клуба);

**нападаючыя:** Павел Развадоўскі («Юнацтва», Мінск), Сяргей Дрозд («Дынама», Мінск, КХЛ), Арцём Дзямкоў («Шахцёр», Салігорск), Джэф Плат (ЦСКА, Масква, КХЛ), Ягор Шаранговіч («Дынама», Мінск, КХЛ), Аляксандр Мацярухін («Шахцёр», Салігорск), Максім Сушко («Оуэн-Саунд», OHL), Шарль Лінгле («Дынама», Мінск, КХЛ), Аляксандр Паўловіч («Дынама», Мінск, КХЛ), Арцём Ляўша («Нёман», Гродна), Аляксандр Кітараў («Дынама», Мінск, КХЛ), Арцём Кіслы («Нёман», Гродна), Яўген Кавыршын («Дынама», Мінск, КХЛ), Артур Гаўрус («Дынама», Мінск, КХЛ).

Адным словам, з Богам!

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

*Данія ўпершыню ў гісторыі стане гаспадыняй чэмпіяната свету па хакеі, і інтарэс да гэтай падзеі ў краіне неверагодна высокі – білеты на матчы сваёй каманды раскупілі яшчэ восенню. Першымі ў продаж паступілі пакеты білетаў – квіткі на ўсе матчы кваліфікацыйнага раўнда адной зборнай можна было купіць за 140–540 долараў. Пакет на ўсе гульні плэй-оф – 420–2100 долараў. А вось на матчы з удзелам зборнай Даніі кошты на квіткі даражэйшыя.*

*

*Большасць гасцініц у Капенгагене (там будзе гуляць і беларуская зборная) ужо забраніраваны. Пражыванне ў нумары на дваіх у недарагім матэлі на працягу ўсяго турніру будзе каштаваць каля 3 тысяч долараў. Можна знайсці кватэру непадалёку ад арэны, але гэта будзе каштаваць прыкладна 200–250 долараў у суткі.*

*

*У Капенгагене знаходзіцца музей сусветна вядомага казачніка Ганса Хрысціяна Андэрсена. Таксама ў сталіцы Даніі знаходзіцца шмат музеяў, палацаў і замкаў, таму ў вольны час і турыстам, і хакеістам будзе што паглядзець.*

*

*Афіцыйным талісманам сусветнага першынства стала качаня Даклі, імя якому выбіралі галасаваннем сярод балельшчыкаў.*

ШАХМАТЫ

## Святкаваў бы юбілей...



Задача, якую прапануем для рашэння, належыць Мікалаю Мікалаевічу Лысёнку (1958–1993). Ён жыў і працаваў у Мінску. Надрукаваў звыш за 50 задач, з якіх каля 30 адзначаны прызамі і водгукамі. Сярэбраны прызёр аднаго з чэмпіянатаў Беларусі ў раздзеле шматхадовых задач. На жаль, трагічны выпадак абарваў жыццё гэтага таленавітага творцы ў 35 гадоў.

**Белыя:** Кра4, Фg5, Cf1, Kd3, Ke6, пп. b2, e2 (7).

**Чорныя:** Крс4, Фh3, Cf2, пп. b3, c5 (5).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Эцюдныя прыгоды

Сярод вядомых беларускіх складальнікаў шахматных эцюдаў – мінчанін Генадзь Васільевіч Новікаў. Нарадзіўся ён у 1958 годзе. Апублікаваў больш за 20 твораў, многія з якіх атрымалі адзнакі на конкурсах. Вось адзін з эцюдаў Г.Новікава.

**Белыя:** Крb8, Са3, п. g2 (3).

**Чорныя:** Кра1, п. а2 (2).

**Выйгрыш.**

Рашае 1.Се7! Крb1 2.Cf6 Крс2 3.g4 Крd3 4.g5 Кре4 5.g6 Крf5 6.g7 Кр:f6 7.g8Ф а1Ф 8.Фh8+ Кр~ 9.Ф:а1.

## Турнір за турнірам

У мінулым выпуску мы распавялі пра вынікі сёлетніх чэмпіянатаў Беларусі сярод мужчын і жанчын і прывялі па партыі чэмпіёнаў-2018.

Сёння прывядзём яшчэ два паядынкі з жаночага першынства краіны.

***Настасся Зязюлькіна – Ганна Сташыс***

1.е4 c5 2.Кf3 g6 3.d4 cd 4.К:d4 Кс6 5.c4 Кf6 6.Кс3 d6 7.Се2 Сg7 8.Се3 0-0 9.0-0 Cd7 10.h3 К:d4 11.С:d4 Сс6 12.Фd3 а5 13.Лаd1 Кd7 14.С:g7 Кр:g7 15.Фd4+ Крg8 16.Сg4 Кс5 17.e5 Фb6 18.ed ed 19.Лd2 Лfd8 20.Ле1 Кd7 21.Лed1 Ф:d4 22.Л:d4 Ке5 23.Се2 Лdc8 24.Л:d6 а4 25.f4 Кd7 26.Л:d7 С:d7 27.Л:d7 а3 28.Л:b7 аb 29.Л:b2 Лd8 30.Сf3 Ла3 31.Кb5 Лаd3 32.с5 Лd2 33.Л:d2, 1:0.

***Генрыета Лагвілава – Вольга Бадэлька***

1.b3 е5 2.Сb2 Кс6 3.е3 Кf6 4.Ке2 d5 5.g3 h5 6.h3 Сf5 7.Сg2 Фd7 8.d4 Сd6 9.de К:е5 10.Кbс3 0-0-0 11.Кd4 Се4 12.К:е4 de 13.а3 с5 14.Ке2 Кf3+ 15.С:f3 еf 16.Кf4 Фf5 17.С:f6 Ф:f6 18.Кd5 Фf5 19.с4 Лhе8 20.Ла2 Ле6 21.Лd2 Лdе8 22.Фс2 Фе5 23.Фb2 g5 24.Ф:е5 С:е5 25.Крd1 f5 26.Крс2 Лg8 27.Лg1 Лg7 28.Лdd1 а6 29.b4 сb 30.аb b5 31.с5 Крb7 32.Кс3 Крс6 33.Лd8 Лd7 34.Лf8 С:с3 35.Кр:с3 Ле4 36.Лf6+ Крс7 37.Л:f5 Лс4+ 38.Крb3 Лd3+ 39.Крb2 Лd2+ 40.Крb3 Лdс2 41.Лf7+ Крd8, 0:1.

За час, што прайшоў пасля чэмпіянатаў Беларусі, іх пераможцы і прызёры паспелі паўдзельнічаць не ў адным міжнародным спаборніцтве. Бадай што найбольшых поспехаў дасягнуў бронзавы прызёр мужчынскага першынства Уладзіслаў Кавалёў – беларускі грасмайстар спачатку выйграў міжнародны турнір у Оршы, а потым заняў першае месца на прэстыжным фестывалі "Аэрафлот" у Маскве.

Па шэсць беларускіх удзельнікаў (сярод іх – зноў жа прызёры чэмпіянатаў краіны) было ў складзе мужчынскага і жаночага першынстваў Еўропы, якія прайшлі адпаведна ў Грузіі і Славакіі. Праўда, тут нашы суайчыннікі фінішавалі даволі далёка ад прызавых месцаў.

## «Машына часу»

У задачы расійскага майстра Юрыя Фокіна (**белыя:** Кре6, Kf5, Kg8; **чорныя:** Крh7, Kh8) белыя бяруць назад свой апошні ход і замест яго ставяць чорнаму каралю мат у 1 ход. Паспрабуйце знайсці рашэнне.

## Праверце адказы

Задача Ч.Якубоўскага ад 18 красавіка рашаецца: **1.Фd5**. Першымі правільна адказалі Васіль Жуковіч, Віктар Трухан, Сяргей Цяльпук.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 01.05.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 250 экз. Заказ № 1581.

*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*